# Байкі і баечкі
# люду Вялікае Літвы



княскія, рыцарскія, мяшчанскія і сялянскія,
звычайныя і цудоўныя, у розныя часы запісаныя,
а цяпер разам да чытання паспалітаму
люду выдадзеныя

# Байкі і баечкі люду Вялікае Літвы

Менск
“Медысонт”
2020

Уклаў – **Алёхна Дайліда**

За магчымасць карыстання фотакопіямі зборніка №107 выказваем падзяку супрацоўнікам Інстытута мовазнаўства Цэнтра даследванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі – дырэктару **Ігару Капылову** і загадчыку аддзела гісторыі беларускай мовы **Наталлі Паляшчук**. За дапамогу ў расчытанні тэкстаў удзячны вядучаму навуковаму супрацоўніку аддзела гісторыі беларускай мовы **Эльвіры Ярмоленка**.

Рысункі – **Ганна Філіпёнак**, **Таісія Паршына**

Карэктар – **Святлана Карпучок**

Кніга выйшла накладам: **Алёхны Дайліды**, **Віталя Паўлоўскага**, **Алены Сезаненка-Лабецкай**, **Змітра Магнуса Рогача**, **Андрэя Хазевіча**

На вокладцы ўжыты рысунак “Літоўская карчма” з кнігі “Касмаграфія” Себаст’яна Мюнстэра 1545 г.

У аздабленні кнігі ўжыты шрыфт “Скарына 2017”, укладзены Дзмітрыем Бадзягіным, Антонам Брылём, Кацярынай Матавілавай, Кацярынай Наліўкай, Аляксеем Цітовічам, Інай Цітовіч.

А – А, Ж – Ж, М – М, Ꙋ – У, ѧ – я, Ꙗ – Я



Мілы чытачу, ведаеш славу нашага Вялікага Княства Літоўскага, якое правы сваёй мовай спісаныя ў старажытнасці мела, палякам каралёў падавала ды непрыяцеляў сваіх на палях нямецкіх, маскоўскіх ды валаскіх перамагала. Але не ведаеш яшчэ ўсіх тых аповесцей, баек і баечак, што люд наш стагоддзямі пераказваў ды захоўваў, нібыта навуку жыцця нашчадкам падаючы. Дыкжэ цяпер апавяданні, прыпавесці і байкі народу нашага, княскія, рыцарскія, мяшчанскія і сялянскія, у гэтай кнізе разам сабраны і выдрукаваны для свядомасці паспалітай аб слаўных учынках і мудрасці продкаў нашых, стараннем а накладам:

*Алёхны Дайліды з Менска,*
*Алены Сезаненка-Лабецкай з Менска,*
*Віталя Паўлоўскага з Вілейкі,*
*Змітра Магнуса Рогача з Крэва,*
*Андрэя Хазевіча з Менска.*

# Змест

## Прыпавесці і апавяданні княскія



## Прыпавесці і апавяданні рыцарскія

## Апавяданні і байкі мяшчанскія



## Апавяданні і байкі сялянскія



# Пра князя Даўспронга, як Вількамір заснаваў

Аб Ваўкаміру, для чаго назваўся той горад.

Князь Даўспронг цягнуў з людам сваім над Свенту* раку, там знайшоў пагорак выдатны ў палажэнні раскошным і збудаваў на ім замак, а другі замак
1219 ніжшы, і Ваўкамiраю назваў.

А калі Даўспронг прыйшоў на тыя месцы, дзе яго збудаваў, вялікую вялікасць знайшоў ваўкоў. І тыя ваўкі, згодна жывучы з быдлам, коньмі, оўцамі Даўспронгавымі, жаднай* шкоды не чынілі ў яго дабытку, так што, логвішчы свае маючы, пладзіліся між імі і хадзілі між оўцамі, як авечкі. І для таго, маючы мір Даўспронг ад іх, назваў горад Ваўкамір.

# Пра вялікага князя Войшалка, ваяра і мніха

Войшалк пачаў княжыць у Наваградку, у паганстве будучы, і пачаў праліваці крыві многа, забіваў на ўсякі дзень па тры або па чатыры чалавекі. Потым увайшоў страх Божы ў сэрца яго, і памысліў ён прыняць святы хрост, і
1246 хрысціўся ў рускую веру ў Наваградку. І потым пайшоў Войшалк да Галіча да Данілы Раманавіча*, караля Рускага, хочучы прыняць чарнецкі чын, і пастрыгся ў чарняцы. І быў у манастыры тры гады і адтуль пайшоў да Святой
1258 Гары*. І прыйшоў зноў да сваёй зямлі да Наваградка і збудаваў сабе манастыр над Нёманам між Літвою і Наваградкам, і там жыў з колькімі чарняцамі ў пабожнасці жывата*.

Учуўшы забойства айца свайго Міндоўга, Войшалк уцёк да Пінска і там у
1263 манастыры жыў, а Трайнята пачаў панаваці на Княстве Літоўскім і Жамойцкім у год 1263. Але нядоўга, бо скора Транята войскі свае літоўскія і яцвяскія да Мазоўшы выправіў, заразом чатыры верныя слугі Міндоўгавы, спрысягшыся на Трайняту забіці, калі ішоў да лазні, забілі яго, а самі ўцяклі да Войшалка на Пінск.

Калі такія злыя нязгоды слаўнаму панству Вялікага Княства Літоўскага
1264 гразілі, абачыліся паны, у каторых належаў парадак, з’ехаліся да Кернава і радзілі аб выбранні пана і князя сабе. А так радзілі Войшалка чарняца, сына Міндоўгава, каторы на той час жыў у Пінску ў манастыру, паднесці на панства*, а іншыя многіх іншых хацелі, а палачане, наваградцы, гарадняне, падляшане і мазыране згаджаліся аднастайнымі галасамі на кагосьці з сыноў Данілы караля Рускага, або Льва, або Рамана, на панства прасіці Літоўскае, іншыя таксама на Шварна, сястрэнца* Данілы, каторы на той час у Дарагічыне меў сваю сталіцу, а з Міндоўгам, каралём Літоўскім забітым, вялікае прыяцельства меў, на панства паднесці яго. Літоўскія ўсе паны, баронячы вольнасці народу свайго літоўскага, мовілі, што лепш Войшалка, сына Міндоўгава, як уласнага дзедзіча з манастыра Пінскага на княства ўзяці, а калі б не хацеў, то і гвалтам узяці яго і на Вялікае Княства Літоўскае айчызнае паднесці.

А так зараз паны літоўскія выправілі да Войшалка паслоў зацных* і вялікіх паноў, імем усяго паспольства і паноў просячы яго на айчызнае, уласна яму належачае панства. Але Войшалк, прызваны ад Бога на сан духоўны, вымаўляўся многа, не дазваляючы таго жаднаю мераю і не слухаючы іх у тым. Але ў той час вельмі стрывожаныя паны зноў выправілі паслоў да яго, мовячы: “Калі не ўчыніш таго на просьбу нашу, то і гвалтам возьмем цябе на панства”.



І так, вялікімі просьбамі ад падданых сваіх змякчаны, выехаў Войшалк з манастыра пінскага з пінянамі да Наваградка, а адтуль, узяўшы з сабою навагрaдцаў, у княжым почце да Кернава прыехаў, дзе ўсе паны, баяры і ўсё паспольства з вялікаю вясёласцю ўдзячна яго прынялі і на стальцы Вялікага Княства Літоўскага пасадзілі звыклымі цырымоніямі, з мечам, у шаце і шапцы княжай, віншуючы і зычачы яму шчаслівага панавання ў доўгія вякі. А так Войшалк, атрымаўшы панства айчызнае, трываў набожна ў законе* чарняцом, бо заўжды на княжых сукнях светладарагіх на галаве зверху клабук* чорны насіў.

Войшалк пачаў княжыці ва ўсёй зямлі Літоўскай, і пачаў ворагаў сваіх збіваць, і многа паноў літоўскіх, жамойцкіх і яцвяскіх памардаваў, помсцячыся смерці айца свайго Міндоўга, іншыя ж перад ім уцякалі, а ён тым уціскам і лупествам* падданых вялікія скарбы сабраў і, гэтым скарбам войскі зацягаючы, проці Льва Данілавіча*, каралевіча Рускага, аб граніцы літоўскія ваяваў. І княжыў Войшалк, і чыніў многія войны, змовіўшыся з князямі рускімі, на князя Ляцкага Баляслава*, і многа войн зысківаў*.

# Аб вялебным князю Канстантыне Карыятавічу

Брат вялікага князя Літоўскага Альгерда князь Карыят дзяржаў Наваградак Літоўскі. А ў яго былі чатыры сыны: князь Юрый, князь Аляксандр, князь
1329 Канстантын, князь Фёдар. І тыя княжаты Карыятавічы, за князя вялікага Альгердавым прызваленнем і з помаччу Літоўскае зямлі, пайшлі ў Падольскую
1362 зямлю і ўсю зямлю Падольскую аселі. А князь вялікі Альгерд сыноўцаў* сваіх, князёў наваградскіх Карыятавічаў, паставіў над войскам Літоўскім на Падоллі і ўсе краіны Рускія з Падоллем паручыў ім і даў у панаванне. А найпярвей знайшлі сабе цвержу на рацэ на Смотрычы і тут сабе нарадзілі горад Смотрыч. І княжыў на Смотрычы князь Канстантын Карыятавіч.

У год 1368 Казімір, кароль Польскі, будучы старым і хворым, расказаў, каб у
1368 Кракаў паны ляшскія* сабраліся на сойм вальны, на выбранне караля. А так між іншымі хацелі абраці на каралеўства Польскае Канстантына Карыятавіча, бо дазнаўся кароль Казімір, што княжаць браты Карыятавічы на Падольскай зямлі, а людзі мужныя. І ён прыслаў да князя Канстантына глейтоўныя лісты*, з вялікаю цвёрдасцю просячы, каб да яго прыехаў. Бо ўмысліў тое сабе і з усімі панамі, што ж у яго сына не было, толькі была адна дочка, і хацеў за яго дочку даці, а па сваім жываце каралём асадзіці.

І князь Канстантын на глейтоўных лістах да Польскага караля ездзіў, і, там паглядзеўшы, не пажадаў да той веры прыступіць, і жаднаю мераю не хацеў веры сваёй грэцкай адступіці для дачаснага панства. А так, каралеўствам пагардзіўшы, зноў на тых жа лістах ад'ехаў да Падольскай зямлі, да свайго гаспадарства. І тут, будучы на Падольскай зямлі, на сваім гаспадарстве, памёр.

# Пра вялікага князя Альгерда, як Маскве адказ даў

Альгерд, вялікі князь Літоўскі і Рускі, нямалы час панаваў у Вялікім Княстве Літоўскім і быў у добрай прыязні з вялікім князем Дзмітрыем Іванавічам Маскоўскім*. Каторы ж князь, без кожнае прычыны, апусціўшы прыязнь, у год 1370, прыслаў да вялікага князя Альгерда пасла свайго з адказам, а прыслаў яму агонь і шаблю, даючы яму ведаці, што “буду ў зямлі тваёй па краснай вясне, па ціхім леце”.

І князь вялікі Альгерд выняў з красала губку а крэмень і, запаліўшы губку, даў
1370 паслу а мовіў так:

“Дай то гаспадару свайму і паведай яму, што ў нас у Літве агонь ёсць. А што ён адказвае да мяне, хочучы быці ў маёй зямлі па краснай вясне ды па ціхім леце, – а я, дасць Бог, у яго буду на Вялікдзень а пацалую яго красным яйцом цераз шчыт суліцаю, а з Божаю помаччу кап’ё сваё к гораду яго Маскве прысланю. Бо не то валечнік*, што часу падобнага* валчыць, але то валечнік, калі непагода* валкі, тады над непрыяцелем сваім прыязні даводзіць”.

І, затрымаўшы ў сябе тых паслоў, зараз паспалітае рушэнне па ўсім Вялікім Княстве Літоўскім і Рускім расказаў, каб сцягаліся да Віцебска, і, сабраўшы войскі свае ўсе літоўскія і рускія, пайшоў з Віцебска проста к Маскве. А прыцягнуўшы пад Маскву, стаў абозам у мілі ад горада і выправіў паслоў маскоўскіх, даўшы ім жагву* запаленую, і казаў, каб аддалі князю свайму, мовячы, што Альгерд, не зычачы яму так далёкай дарогі да Вільні, сам у яго ў Маскве будзе на Вялікдзень і яйцо краснае перш, ніж тая жагва згарыць, яму аддасць, бо агню з Масквы да Вільні не трэба было вазіці. З тым пусціўшы паслоў, сам за імі ўтропы з войскам цягнуў.

І на самы Вялікдзень рана князь вялікі Маскоўскі з баярамі і з князямі ішоў да царквы, а князь вялікі Альгерд з усімі войскамі сваімі, распусціўшы харугвы свае, паказаўся на Паклоннай гары. І відзячы то, князь вялікі Маскоўскі ўпаў у страх вялікі і жахнуўся, відзячы, што князь вялікі Альгерд прыйшоў на яго так моцна паводле слова свайго. І паслаў да яго, просячы яго і вялікія дары яму абяцаючы, каб яго з айчызны яго Масквы не выгнаў а гнеў бы свой адпусціў.

І Альгерд на той умове без жаднай вайны ўехаў у замак Маскоўскі, дабравольна атвароны, там жа ў царкве Дзмітрыя князя прывітаў і, аддаючы яму краснае велікоднае яйцо, мовіў: “Відзіш, княжа Дзмітрый, хто з нас раней на вайну ўстаў”.

# Як князь Вітаўт з Крэўскага замка ўцёк

Князь вялікі Ягайла пераступіў сваёй праўды*, што даканчаў з вялікім князем Кейстутам а з князем Вітаўтам, і, як да Вільні прыехаўшы, князь вялікі Ягайла дзядзю свайго князя вялікага Кейстута, акаваўшы, да Крэва
1382 паслаў і ўсадзіў у вежу, а князя вялікага Вітаўта пакінуў быў яшчэ ў Вільні. І там у Крэве пятае ночы князя вялікага Кейстута задушылі каморнікі* князя вялікага Ягайлы.

Па смерці вялікага князя Кейстута паслаў князь вялікі Ягайла брата свайго Вітаўта ў вязніцу да Крэва з жонкаю яго і вялеў яго цвёрда сцерагчы ў каморы. Князь вялікі Вітаўт сядзеў у Крэве за цвёрдаю старожаю, а жанчынам дзвюм дазволена было хадзіці да каморы пакладываці яго з княгіняю, а паклаўшы, вон выходзілі, а старожа заўжды вакол была. І княгіня вялікая Вітаўтава* паслышала ад людзей, мовячы ім між сабою: “Калі князь вялікі Вітаўт будзе пад імі даўжэй сядзець, то так, як над айцом яго, будзе”. І дарадзіла яму так: як прыйдуць жанчыны іх пакладаці, яму адное жанчыны ўскласці на сябе адзежу да выйсці вон з другою жанчынаю, а той жанчыне застацца ў яе ў каморы. І Вітаўт, паслухаўшы жонкі сваёй рады, апрануўся ў адное жанчыны адзежу да з другою выйшаў вон, і спусціўся з горада, і ўцёк да Немцаў да містра* да Мар’іна-гарадка*. А сторажы тое відзелі і не дагадаліся таму, даўнімалі, што жанчына з жанчынаю выйшла.

І будучы князю вялікаму Вітаўту ў Немцах у містра, прыехалі да яго многія князі і баяры літоўскія, і пачаў Вітаўт ваяваць зямлю Літоўскую з помаччу нямецкаю. А ў той час князь вялікі Ягайла з маткаю сваёй былі ў Віцебску, а брат яго Скіргайла ў Троках быў. І князь вялікі Вітаўт многа паваяваў Літоўскае зямлі, а вялікаму князю Ягайлу і брату яго Скіргайлу немагчыма было стаяці проці Вітаўта, бо ў яго вялікая сіла сабралася. Тады князь вялікі Ягайла прызваў князя вялікага Вітаўта з Немцаў і даў яму Луцк з усёю зямлёю Валынскаю і з Падоллем а ў Літоўскай зямлі вотчыну яго.

# Як кароль Ягайла Сафію Гальшанскую сватаў

Ў год 1421 быў бунт і нязгода ў Смаленску. І князь вялікі Вітаўт, злучыўшыся з братам сваім каралём Польскім Ягайлам Валадыславам, з усімі сваімі войскамі прыйшлі да Смаленска і горад Смаленск і ўсю зямлю паселі. І зацвердзіўшы ўсіх людзей у Смаленску, пайшлі назад у Літву.

І едучы назад, прыехалі да Друцка і былі на учце ў князя Сямёна
1421 Дзмітрыевіча Друцкага. А каралю Ягайлу ўжо трэцяя жонка была памерла без плоду, і ён відзеў у князя Сямёна дзве сястрычны* яго прыгожых, старэйшая Васіліса прозвішчам Бялуха, а другая Сафія. І прасіў Ягайла Вітаўта, мовячы тым абычаем: “Меў я за сабою тры жонкі, дзве ляхавіцы, а трэцюю немкіну, а плоду з імі не меў. А цяпер, прашу цябе, з’яднай мне ў князя Сямёна сястрычну яго меншую Сафію, каб я за сябе яе ўзяў, а з пакалення рускага* мне Бог плод даў”.

І калі князь Вітаўт пачаў аб тым гаварыці князю Сямёну, князь Сямён мовіў: “Гаспадару княжа вялікі Вітаўце! Кароль Ягайла – брат твой карунаваны а гаспадар вялікі. Не магло бы стацца лепей сястрычне маёй, калі б за яго міласцю была. Але не гадзіцца ганьбы чыніць і сараматы старэйшай сястры яе, каб яна наперад старэйшае ішла замуж, а так бы няхай яго міласць старэйшую ўзяў”.

І калі то князь вялікі Вітаўт каралю Ягайлу паведаў, ён яму адказаў: “Сам то я ведаю, што старэйшая ёсць цуднейшая, але мае вус, а то знамянуе, што дзеўка моцная, а я чалавек стары і не смею на яе пакусіціся”.

А затым князь вялікі Вітаўт, памысліўшы з князем Сямёнам, прызвалі да сябе князя Івана Валадзіміравіча Бельскага*, братаніча свайго, і змовілі за яго тую старэйшую сястру Васілісу Бялуху, а Сафію заручылі за караля Ягайлу. А тыя сястрычны князя Сямёнавы былі дочкі князя Андрэя Альгімонтавіча Гальшанскага*.

І потым кароль Ягайла прыслаў паноў знакамітых з Ляхаў і, узяўшы княжну Сафію, аднеслі яе да Кракава. Ён, знакамітае вяселле ўчыніўшы, узяў яе за сябе, і карунавалі яе, і меў з ёю двух сыноў, Валадыслава, каторы потым быў каралём Вугорскім і Польскім, а другога сына меў Казіміра, каторы потым быў каралём Польскім і вялікім князем Літоўскім.

# Пра вялікага князя Вітаўта, як сойм у Луцку справіў

На зіму князь вялікі Вітаўт прасіў караля Ягайлу да сябе ў ловы на зубры да Белай Вежы* на пацеху, і кароль Ягайла прыехаў да яго з каралеваю Сафіяй. І прасіў князь Вітаўт па тых ловах караля Ягайлу, каб з ім ехаў да Вільні,
1426 і ўсю зіму каб з ім суполам зімавалі ў Вільні, і пацехі і вясёласці між сабой вялікія чынілі.

І будучы кароль Ягайла ў Вітаўта ў Вільні, і пачне мовіці брату свайму князю вялікаму Вітаўту: "Мілы браце, паняў жонку маю маладую, а я чалавек летні*, не ведаю, ці буду мець плод, а ты яшчэ чалавек дужэй мяне, можаш плод з сваёй жонкаю мець, а таму раджу табе, каб ты слаў да цэсара* і аб тое стаў, каб мог каралём быць, а я табе хачу дапамагчы ў цэсара і ў папежа".

І князь вялікі Вітаўт мовіў: "І як жа я бы мог к таму прыйсці, калі цэсара не знаю, а ні ён мяне? А аднак жа хачу так учыніці, каб мне на тое накласці вялікі наклад, і цэсара і іншых паноў хрысціянскіх хачу ў сябе мець у Луцку".

І каралю Ягайлу тое спадабалася і радзіў, каб так учыніў. А потым караля Ягайлу з вялікаю чэсцю, дараваўшы многацэннымі дарамі, адпусціў да Польшчы, а сам к таму гатаваўся, каб цэсара і тых паноў хрысціянскіх у сябе мець і чым падняці.

І будучы на другую зіму, паслаў паслоў сваіх да цэсара хрысціянскага і да
1427 караля Дунскага*, і княжат паморскіх*, і да княжат слёнскіх* і нямецкіх, і да зяця свайго вялікага князя Маскоўскага, і да князя вялікага Цвярскога, і да князя вялікага Разанскага, і да цара Перакопскага, і да ваяводы Валаскага*, і да іншых паноў хрысціянскіх, жадаючы, каб у яго былі. Дзе ж цэсар хрысціянскі (на той час будучы і каралём Вугорскім і Чэскім) Жыгімонт у Вітаўта быў, і кароль Польскі Ягайла, брат Вітаўтаў, і кароль Дунскі, і цар Перакопскі, і вялікі князь Разанскі, і вялікі князь Маскоўскі, зяць Вітаўтаў, і князь вялікі Цвярскі Барыс Аляксандравіч, і містр Прускі і Ліфлянцкі, і князь Адоеўскі, і Перамышльскі, і навасельскія, і ваявода Валаскі, і паслы вялікія ад Іаана Палеалога* цара Грэцкага, і князь Мазавецкі, і іншых княжат і паноў хрысціянскіх і размаітых гасцей многа.

І калі тыя госці ў вялікага князя Вітаўта былі, і князь вялікі Вітаўт дастатак даваў ім вялікі, і выхожывала на іх аброкаў* на кожны дзень: мёду сычанага сямсот бочак, акром мушкатэль*, і він, і малмазей*, і іншых піцій размаітых, а ялавіц сямсот, баранаў, вепраў сямсот, зубраў па шэсцьдзесят, ласёў па сто, акром іншых размаітых звярын і іншых многіх мяс і дамовых патрэб. І дзяржаў тых гасцей вялікі князь Вітаўт у сябе сем тыдняў.

І відзячы то цэсар па Вітаўце, што такую ім учту вялікую ўчыніў і дастатак вялікі даваў, і к таму багацце яго вялікае, і сам цэсар мовіў да Вітаўта: "Княжа вялікі Вітаўце, бачым па табе, што ты князь багаты і вялікі, а к таму новы хрысціянін, і гадзіцца табе быць панам карунаваным, а між намі, каралямі хрысціянскімі, быць братам". І князь вялікі, услышаўшы тое ад цэсара, і зразумеў на то волю цэсарскую, і таго ж часу разам з братам сваім каралём Ягайлам прасіў ад цэсара, каб на тое цэсар стаў і каруну яму прызволіў мець, і да айца святога папежа каб паслаў, каб, пасвяціўшы каруну, князю вялікаму Вітаўту даў. І цэсар к таму прызволіў, і таго ж часу адправіў паслоў сваіх да папежа, жадаючы айца святога папежа, каб каруну Вітаўту паводле звычая хрысціянскага даў. І князь вялікі Вітаўт пры тым пасле цэсарскім адправіў свайго пасла да Рыма, да айца папежа, з пасольствам сваім і з лістамі каралёў хрысціянскіх, пана Сямёна Гедыгоўдавіча а пана Шадыбора брата Кязгайлава.

І пасля таго князь вялікі Вітаўт жыў тры гады. А пан Сенька з панам Шадыборам, з братам пана Кязгайлавым, ехалі з карунаю з Рыма ад папежа, а жылі ў Рыме тры гады для таго, што была валка* ва Улохах*, і для таго не смелі з карунаю ехаці, а весць іх зашла ў Львове аб смерці вялікага князя Вітаўта, што памёр. І ляхі, не зычачы каруны Літве, каруну ў іх тую аднялі і, рассекшы яе наполы, прыклалі к каруне біскупа Кракаўскага, каторая і цяпер пры замку кракаўскім у касцёле святога Станіслава ёсць.

# Як Казіміра на вялікае княжанне пасадзілі

Ехаў Ян Гаштоўт* да князя Жыгімонта і заехаў на учту да князёў Валожынскіх, і князі Валожынскія учту вялікую яму ўчынілі. І будучы яму ў Валожыне, і прыйшла ім вестка аб смерці вялікага князя Жыгімонта*. І Гаштоўт
1440 уборзе* паспяшаўся да Гальшанаў да князя Юрыя Сямёнавіча Гальшанскага, і там з’ехаўшыся, пасналі ўборзе да пана Віленскага, старасты Жамойцкага Кязгайла і да Мікалая Неміровіча* і да Радзівіла маршалка земскага. І тыя паны ўсе з’ехаліся да Гальшанаў да князя Юрыя і ўмыслілі і аднастайную раду ўчынілі ўзяць сабе гаспадаром на Вялікае Княства каралевіча Казіміра, сына Ягайлава, отчыча Літоўскае зямлі, і пасналі ў Лядскую зямлю да Судаміра. І выправілі да яго ў пасольстве паноў Кязгайлавічаў Міхайла а Яна. А паны ўсе літоўскія і князь Юрый Гальшанскі паехалі да Бярэсця за пасламі сваімі.

І прыехалі паслы да каралевіча Казіміра да Судаміра і пачалі яго прасіць, каб у іх гаспадаром быў. І паны лядскія не хацелі пусціць каралевіча з зямлі сваёй і жадалі, каб толькі намеснікам Казімір быў у Літве, а не вялікім князем. І паслы літоўскія пачалі распавядаць аб зямлі Літоўскай і аб ловах раскошных, якія ў Літве ловы: тур’і, зубрыны і іншых размаітых звяроў. І каралевіч Казімір вельмі палюбіў тое, бо ловы вельмі любіў, і прызволіў з імі ехаць проці волі паноў лядскіх. А паны лядскія, узяўшы грошай з скарбу кароннага, паехалі з каралевічам Казімірам у дзвюх тысячах жаўнерства. І тыя два паны – Міхайла і Ян Кязгайлавічы – у вялікай пачэснасці прынеслі Казіміра да паноў-радных да Бярэсця.

І каралевіч Казімір з усімі тымі князямі і паны-радаю літоўскаю паехаў да Вільні. І наступнага дня рана, калі паны польскія яшчэ спачывалі ў ложках і нічога не дамысляліся, паны-рада літоўская – князь Юрый Гальшанскі, а кашталян Віленскі Кязгайла, а Іван Гаштоўт, а Мікалай Неміровіч, а Радзівіл, маршалак земскі – забілі ў звоны, заспявалі гімн “Цябе, Божа, хвалім” і пасадзілі Казіміра на сталец літоўскі, і каранавалі мітраю* ксёнжанскаю, і вялікім князем абвясцілі. У той час было яму не больш толькі трынаццаць гадоў.

## Для чаго северскія князі Маскве паддаліся

Калі Іван Васільевіч, цар Маскоўскі, апанаваў Вялікі Ноўгарад*, княжаты северскія* да Івана Васільевіча да Маскоўскага вялікага князя і цара прысталі, хоць невялікая была да адарвання прычына. А тая, што калі да Вільні
1484 да караля Казіміра прыехалі часу аднаго тыя княжаты, адзверныя* не хацелі іх на пакой да караля пусціці. А так адзін з іх князь упорна дапіраўся ўвайсці да караля, ногу за парог перасадзіў, а адзверны, не пускаючы яго, палец яму ножны дзвярмі прыціснуў і зламаў. Хоць за то адзверны быў скараны, бо шыю яму сцялі, аднак жа гнеў тых княжат нікім не быў ублаганы*, бо зараз з Вільні выехаўшы, да князя вялікага Маскоўскага паехалі, а самі сябе і княствы яму свае паддалі.

## Пра Барбару Радзівіл

Ў год 1544 на сойме ў Бярэсці спусціў кароль Жыгімонт Стары сыну свайму Жыгімонту Аўгусту Вялікае Княства Літоўскае, і малады кароль Жыгімонт Аўгуст з сваёю каралеваю Альжбетаю паехаў да Вільні. А ў год 1545 у
1545 Пятроў пост у Вільні памерла каралева маладая Альжбета. А кароль Аўгуст, калі пахаваў цела малжонкі сваёй, будучы пан малады, не могучы стрымаць прыражонае хцівасці да белых галоў*, пачаў мілаваць панну Барбару Радзівілаўну, каторая была ўдавою па пане Станіславу Ольбрахтавічу Гаштоўце, ваяводзе Троцкім, і жыла на той час пры матцы сваёй пані Мікалаевай Радзівілавай і браце сваім пане Мікалаі Радзівіле, падчашым.

І кароль пачаў да яе хадзіць ночы, куды хаджэнне сабе ўчыніў з палаца аж да дому яе, і там у яе бываў часта. І было то слышаць па ўсёй зямлі Літоўскай, і браты яе прасілі караля, каб таго перастаў і да сястры іх не хадзіў, і тое няславы дому іх не чыніў. Кароль ім абяцаў да яе не хадзіць і не хадзіў нямалы час, потым кволасці прыражонае далей цярпець не мог і пайшоў зноў да яе ночы, і адно сам-трэць*. А паны Радзівілы таго пільна сцераглі, і калі кароль да сястры іх увайшоў, яны таго ж часу там да караля прыйшлі і мовілі яму:

“Міласцівы каролю, не меў ты цераз тое да сястры нашай хадзіць, а цяпер для чаго прыйшоў?”

Кароль ім адпавёў: “А што ведаеце, можа, цяперашняе прыйсце маё да сястры вашай учыніць вам большую славу, чэсць і пажытак”. Яны мовілі: “Божа, дай то”, – і таго ж часу плябана прывялі, каторага на то гатовага мелі, і аддалі ў шлюб караля з сястрою сваёю патаемна, ніхто з паноў-рад духоўных і свецкіх, ані з двара каралеўскага не былі аб тым свядомы, толькі Радзівілы, а Кязгайла, а плябан, што шлюб даваў. І кароль, шлюб з ёю ўзяўшы, таго нямалы час таіў, і яна жыла пры матцы і ў брата свайго.

У год 1548 у Вялікі пост паны-рада Вялікага Княства ўсе да Вільні да караля
1548 з’ехаліся і, калі то даведаліся, што кароль з тою паняю таемна шлюб браў, сардэчна таго жалавалі і пачалі ўпамінаць і прасіць караля слёзна, каб таго не чыніў і няроўні сабе, падданае сваёй, за малжонку не браў. Потым усім людзям і ўсёй зямлі тое ажаненне каралеўскае было вельмі няміла, а многія таму веры дапусціць не хацелі і многія пашквілюсы пісалі аб тым, у замку да сцен і да ратушы, і да панскіх дамоў да варот прыбівалі, каторыя многія і да караля бывалі прыношаны. А потым і да караля старога, айца яго, і да маткі яго да Кракава тое дайшло. Яны вельмі строга да сына свайго пісалі, каб таго не чыніў і за малжонку яе сабе не браў. Кароль Аўгуст аб тым нічога не дбаў, а караля старога, айца свайго, так і паноў-рад карунных* і Вялікага Княства ўпамінання і прашэння слухаць не хацеў.

У год 1548 кароль Жыгімонт Стары памёр у самы Вялікдзень. Аб каторай смерці каралеўскай прынесена вядомасць каралю маладому Жыгімонту Аўгусту з Кракава да Вільні ў тыдзень па Вялікадні. А на трэцім тыдні па Вялікадні паслаў кароль Жыгімонт да рад, да двара пана Радзівіла, падчашага Вялікага Княства Літоўскага, па пані Гаштоўтавую, з катораю раней таемна шлюб браў. І паны, паводле расказання каралеўскага, узяўшы тую пані Гаштоўтавую, пашлюбёную малжонку каралеўскую, правадзілі яе да замка віленскага, аж да палаца каралеўскага. І кароль яе спаткаў у сянях у дзвярэй і тут, з ёю прывітаўшыся, паведаў усім панам, што ўжо даўно з ёю шлюб узяў, і правадзілі яе паны і дваране каралеўскія да палаца, дзе і першыя каралевы жылі. Таму ажаненню каралеўскаму паны і ўся шляхта-рыцарства, апроч дому Радзівілавага, не былі рады, і вельмі смуціліся, але таго ўжо адмяніць не маглі.

# Яльбейчыкі

Князь Караль Радзівіл*, хоць не быў па-замежнаму адукаваны, але меў свой розум ды вялікі: а лепшы розум з галавы, ніж з кніжкі. Княжна, маці яго, астатняя з роду Вішнявецкіх*, была пані высокага досціпу і нават кніжкі пісала. А маючы аднаго толькі сына, песціла яго да збытку*, так што князь Караль у
1749 пятнаццаць гадоў чытаць нават не ўмеў, а ўмеў толькі біцца на дручках з пажамі, ездзіць на кані без сядла і з фузыйкі* яйкі ў паветры расстрэльваць. Княжна абвясціла, што абдарыць двума дзедзічнымі фальваркамі таго, хто яго навучыць чытаць і пісаць без яго выпірання.

Знайшоўся на то дасціпны шляхціч Пішчала, дзеля чаго стаўся ён заможным гаспадаром, а пазней падстолім Рэчыцкім. Ён князя Караля і яшчэ двух шляхетных маладзікоў – Ігнацыя Валадковіча, сына харужага дворнага Літоўскага, і Міхайлу Рэйтана, сына падкаморага Навагрудскага, – вывучыў чытаць, пісаць і першасных навук без жаднага прымусу, і нават іх бавячы, а такім спосабам. На вялікай драўлянай табліцы была абэцэда, напісаная крэйдай. Кожны з вучняў стаяў з набітай стрэльбай і трапляў у літары, якія менаваў настаўнік, потым складалі склады і выразы. І так кулямі навучыліся чытаць добра, а потым ужо з уласнай ахвоты навучыліся пісаць, а трохі чытаннем, а больш гутаркамі з свядомымі людзьмі вывучылі краёвае права, гісторыю народу і тую тады важную для нас навуку сямейных стасункаў і звязаў. Князь, у дваццатым годзе веку свайго стаўшы мечнікам Літоўскім*, быў
1755 вельмі дарэчы на сваім месцы, а калі стаў маршалкам Літоўскага Трыбунала*, то юрысты за галаву хапаліся, як ён пазнаваў, што праўда, а што круцельства.

У маладосці сваёй, не маючы поля, дзе мог бы выліць свой надта жывы юр, князь гойсаў па літоўскіх лясах на чале шляхетных юнакоў, заняты ловамі. Конна перацінаў ён колькі разоў цэлае Вялікае Княства, шукаючы між агульнага спакою небяспечнасцей, у якіх мог бы дасведчыць сваю надзвычайную адвагу. А калі часам праз сваволю камусьці быдла пабілі або які будынак спалілі, аб тым ніколі не было суда, бо ўсе страты князь шчодра адплачваў, а на людзях якога-кольвечы стану не дапускаў ніколі акрутнасцей, бо пры сваёй вялікай буянасці меў так чулае сэрца, што ніколі не мог знесці чужое пакуты.



Таварыства князя Караля (якое партыя караля Панятоўскага называла “гайдамакамі”*) складалі людзі дасціпныя, непахісныя ў веры да краю і не шкадуючыя для яго крыві і працы, годныя заняць не апошнія старонкі нашае гісторыі. Быў там пан Валадковіч*, адвага і нялюдская сіла якога сёння здаецца баечнай. Ён быў найвялікшым улюбёнцам князя, які да смерці не пераставаў аплакваць яго няшчасны скон у палове веку. Быў і пан Пац, староста Зёлаўскі, пазней генеральны маршалак Літоўскае канфедэрацыі. Быў пан Равускі, падстолі Літоўскі, швагер князя Караля, які быў рэгіментарам той канфедэрацыі. Быў пан Агінскі, сын ваяводы Віцебскага, які, калі б не згінуў на паядынку ад рук нейкага вугорскага магната, дайшоў бы да першых дастойнасцей у Рэчы Паспалітай. Быў пан Жаба, пазней паднесены на Полацкае ваяводства аднастайнай воляй палачанаў, бо гэта было адзінае ваяводства, у якім шляхта да канца захавала вольны выбар свайго ваяводы. Быў пан Слізень, суддзя земскі Слонімскі, які памёр у Царградзе з пошасці, падзяляючы выгнанне князя Караля. Быў князь Любецкі, пазней маршалак Пінскі. Быў пан Хамінскі, пазней ваявода Мсціслаўскі, які маршалкаваў на соймах і трыбуналах заўжды ўзорна, быў вялікім вершапісам і, як я чуў ад веры годных людзей, нават у Рыме ўходзіў за мудрага. Быў пан Шчыт, які памёр кашталянам Полацкім, глыбокі знаўца айчыннага права; вялікаю ёсць шкодаю

для паспольства, што яго пісьмы ў той рэчы былі страчаны. Быў Януш Гарэцкі і Мацей Дэрэцыс, якія пазней у канфедэрацыі* нават французам не папускалі ў навуцы размяшчэння абозаў, і многія іншыя. Усе яны складалі так званую Альбейскую банду. Кожны з іх быў здатны да рыцарскай справы, і хто з іх даваў больш помны давод адвагі, той атрымваў вышэйшую павагу таварышаў.

Аднаго разу пан Валадковіч з ашчэпам* у руцэ выйшаў на лёгка падстрэленага мядзведзя і смела яго выцяў, але ашчэп зламаўся між скаб, а раз'юшаны мядзведзь кінуўся на яго. Валадковіч, не разгубіўшыся, дрэўкам, што засталося ў руцэ, так моцна выцяў яго па лбе, што мядзведзь упаў непрытомны, а Валадковіч, не даўшы яму часу апрытомнець, усадзіў яму ў сэрца кардэляс*. Пан Кастравіцкі, сын стражніка* Пінскага, таксама альбейчык, у Лахве, седзячы на кані, пераскочыў цераз роў шырынёй у дзве сажні і настолькі ж глыбокі, вакол Лахаўскага замка. Хто б мог вылічыць усе іхнія ўчынкі!

Калі настала бескаралеўе*, князь ужо быў ваяводам Віленскім і шчыра
1763 памагаў каралевічу*. Але праціўная партыя, тлумячы права паспалітай перавагай, уставіла паўсюль каптуровыя суды*, не зважаючы на маніфесты шляхты. А ўсім вядома, якая вялікая павага была каптуроў, бо ў часе бескаралеўя звычайныя судовыя юрысдыкцыі спыняліся і трыбунальская, земская і гродская ўлада пераходзіла да каптуроў. І вось той, хто стаўся каптуровым суддзёй у Наваградку, хочучы застрашыць партыю, праціўную пану стольніку Панятоўскаму, выдаў мандат, каб усе наваградцы, што належалі да Альбейскай банды, сталі завіта* перад каптуровым судом, каб адпавесці на закіды, што быццам яны разам з князем ваяводам Віленскім дапусцілі рабункі і гвалты на некаторых дамах шляхты. Відаць, на мэце было адлучыць князя ад яго прыяцеляў.

Наваградская моладзь гуляла ў Нясвіжы, а князь і не падумаў бы стаць на судзе на пазоў каптуроў. Але пан Валадковіч, прымусіўшы вознага*, што прывез яму пазоў, праглынуць яго, напісаў праз яго да суддзі, што стане на рок разам з сваім патронам, якога паказаў вознаму, а гэта быў бізун з Боцькаўскай фабрыкі. Пасля, дабраўшы сабе шэсць моцных рубачоў з нясвіжскіх дваранаў і двух з Альбейскай банды – Венцлавовіча і Вазгірда, выправіўся да Наваградка, хаця ў горадзе стаяла рота войска, і з сваім почтам пайшоў проста на ратушу.

Калі суддзя ўбачыў яго праз акно, уцёк праз тыльныя дзверы і схаваўся аж у кляштары дамініканаў. Пан Валадковіч, прыйшоўшы да пакоя а не знайшоўшы суддзі, тройчы крыкнуў: "Дзе пан суддзя каптуровы, які мае мяне судзіць?" Пан рэгент Матусевіч, паверааны суддзі, аказаўся: "А якую васпан шукае тут

юрысдыкцыю, хіба не ведаеш, што яна мае jus gladii* ў руцэ?" А пан Валадковіч: "Які пекны суддзя каптуровы, які дасылае пазовы, а сам у тэрміновы дзень хаваецца! У нябытнасці суддзі юрысдыкцыя пры пане пісару, таму мой патрон перад васпанам маю справу ўправадзіць". Пан Венцлавовіч і пан Вазгірд, парваўшы пісара, паклалі яго на судовым стале, а пан Валадковіч сваёй рукой адлічыў яму сто бізуноў пры аблічнасці ўсёй канцылярыі, якая на тое паглядала абыякава, бо складалася цалкам з прыхільнікаў Радзівілаў.

Неўзабаве па тым здарэнні пан стольнік Літоўскі* быў абвешчаны каралём.
1764 Але шляхце немагчыма было з'ехацца на соймікі: хто не быў з партыі караля, таго не пускалі. Такім спосабам у Менску скупіўся трыбунал пад кіраваннем аднаго з галоўных непрыяцеляў князя Караля Радзівіла – біскупа Віленскага Масальскага. Біскуп Віленскі стараўся, каб на каптурах выбіралі дэпутатаў баязлівых, аб якіх быў пэўны, што яны напішуць, што ён ім скажа, і ён сам прыехаў на адкрыццё трыбунала, каб уціснуць князя і яго прыяцеляў. Князь ужо меў надзею толькі на зброю і ўзняў Нясвіжскую канфедэрацыю. Для забеспячэння трыбунала ў Менску стаў полк пад шэфствам князя Масальскага*, якому біскуп мог смела зверыцца, бо быў родным братам шэфа. Біскуп і маршалак жадалі застрашыць Радзівілаўскую партыю і, палаючы помстай на пана Валадковіча, хацелі прывесці да выканання дэкрэт на яго, у якім была абвешчана яму кара смерці за збройны наезд на каптуроў. Пана Валадковіча падманам завабілі ў Менск, абяцаючы, што ўвесь полк перайдзе на бок Нясвіжскай канфедэрацыі, і там па доўгай бойцы схапілі і звязанага занеслі да трыбунальскай ізбы. Там яму прачыталі дэкрэт, не даўшы часу нават на адказ, пацвердзілі вырак смерці і расстралялі – тое ўсё на працягу менш гадзіны.

Князь ваявода Віленскі, даведаўшыся, што пан Ігнацы пусціўся да Менска, зараз адчуў яго небяспеку і на чале шасцісот коннікаў, як з Альбейскай банды, так і з спешна сабранай надворнай міліцыі, рушыў за ім да Менска і прыбыў да горада праз шэсць гадзін па расстралянні сябра. Полк Масальскіх спрабаваў абараніць рагаткі*, але быў дашчэнту разбіты. Толькі тады даведаўся князь аб сваім няшчасці і ніколі не пераставаў аплакваць той страты.

# Як кароль да Радзівіла ў гасціну прыязджаў

Кароль Станіслаў Панятоўскі* быў добрага сэрца, а прытым надзвычайна папулярны. Калі ён знаходзіўся між абывацеляў, здавалася, што ён хацеў заўсёды нагадаць, што ёсць такім жа, як яны, шляхцічам. Аднойчы,
1784 наведваючы князя Радзівіла ў звярынцу Альбе ля Нясвіжа, кароль мовіў да Радзівіла па-мужыцку: "*Пане господару, каж віна даті, штоб в твоей хаце ліха не знаті*". А князь Караль* таго толькі і чакаў: распачаліся віваты* без канца, але кароль піў вельмі мала, а і Пане Каханку захоўваў прыстойнасць, адпаведную годнасці яго асобы.

А раз кароль прыехаў да Радзівіла ў гасціну, так той Радзівіл выйшаў проці яго на спатканне ў простым зусім кажусе, нават нічым не пацягненым, а гапкі* зашпіляцца, то з простага зусім рэменю*, адно гузікі калі то кулакі залатыя, а зноў брылянты ў іх сядзелі з добрае курача яйцо. Ну так як кароль увайшоў у палац, сюды-туды прайшліся, тады Радзівіл падвёў караля пад вакно дый кажа, паказываючы: "От для цябе, міласцівы кролю, ад Радзівіла падарак". Калі кароль гляне, аж на надворку цягнуць шэсць валоў воз, а на ім – вялізная брыля золата. От як даўней было!

# Пра Давойну і святы крыж

Сядзеў Ягайла на Вялікім Княстве Літоўскім і пачаў вайну на Мазоўшу і на Ляхі* за тое, што ўзяў быў князь Мазавецкі з помаччу ляцкаю Дарагічын і Мельнік. І прыйшоў Ягайла да ракі Віслы проці Завіхвоста з вялікімі войскамі, і
1384 думу ўчынілі, як бы раку перайсці. І адзін літвін ссеў з каня, і завярцеў сабе хвост вакол рукі, і мовіў так: "Тут вадзе не бываць", і ўдарыў каня і пераплыў раку з канём уборзе. І відзячы таго свайго таварыша, кожны тую раку з коньмі сваімі тым жа абычаем уборзе пераплылі ўсе. І пераплыўшы раку Віслу, прыйшлі пад горад Завіхвост.

І мовіў князь Ягайла: "Не трэба нам таго горада пушкамі дабываць", і сказаў усяму войску свайму, каб кожны па кію ўзяў і кінуў на горад. І калі войска літоўскае, узяўшы па кію, кінулі на горад і поўны горад кіёў накідалі, запалілі ўвесь горад Завіхвост і, спаліўшы Завіхвост, пайшлі пад Апатаў і спалілі, і іншыя многія гарады і сёлы выпалілі аж да самай Вісліцы, і паноў многіх у палон павялі.

І назад едучы Ягайлу міма Святога Крыжа* з войскам, і некаторыя з войска заехалі да Святога Крыжа на гару, між каторымі быў адзін пан з роду Давойнава, узяў дрэва святога крыжа, каторае было апраўлена ў срэбра. І ўзяў тое дрэва не для яго дастойнасці, але для срэбра і, не шануючы таго дрэва, паклаў у таболы* між іншымі простымі рэчамі. І паланіў там дзеўку, панну знакамітую, роду высокага, каторая была гербу Габданку, каторую ж панну ў вялікай пачцівасці хаваў. А князь Ягайла зямлю Ляцкую спустошыў і палону многа забраў, і золата, і срэбра, і камення дарагога, і невымоўнага скарбу набраўшы, у цэласці прыйшоў да стальца свайго да Вільні.

І віленеўцы, паводле звычаю старога, спаткалі князя вялікага Ягайлу з жонкамі і з дзецьмі перад горадам, песні пяючы і ў далоні б'ючы, хвалу даючы вялікаму князю, што такую перамогу зыскаў, і вялікая ціжба людзей была ў вуліцах горада Віленскага. І хто-кольвек датыкаўся тых табол, дзе было дрэва святога крыжа, той зараз паміраў.

І дзівіўся князь вялікі Ягайла таму, што на тым патканні так многа людзей памерла, і пытаўся між сваімі, што бы то за дзіў быў. І прыйшоў той пан з Давойнаў, каторы ўзяў той святы крыж, і пачаў апавядаць той дзіў той панне з Габданку, каторую паланіў. І яна паведала: “Я ў сне відзела ангела божага, каторы мовіў, што той гнеў свой Бог перапусціў на паганства для таго, што дрэва святога крыжа непачціва хаваюць, каторае маюць у сябе”. І той пан з Давойнаў паведаў тую рэч дзявічую вялікаму князю Ягайлу.

І князь вялікі Ягайла казаў таму пану да сябе прынесці той крыж, у каторым Божае дрэва, і тую панну, што ў яго паланенні. І князь Ягайла, агледзеўшы дрэва святога крыжа і тую панну з Габданку, і даў той святы крыж той панне і прыказаў яе пану таму з Давойнаў, каб ужо яна была дабравольна. І сам князь Ягайла тую панну, дараваўшы пачэсна, адпусціў і казаў ёй, каб той крыж пачэсна аднесла і паставіла на тым месцы, дзе пярвей быў. І панна тая, відзячы таго пана з Давойнаў, у каторага была палонена, так сталага, што яе пачэсна ў сябе дзяржаў і чэсць ёй вялікую чыніў, і паведала яму, што яна адна дочка ў айца свайго, і прасіла яго, каб з ёю да айца ехаў, і там каб ёй малжонкам* застаў.

І той пан з Давойнаў з тою паннаю ехаў да айца яе, і тое дрэва святога крыжа пачэсна аднеслі і паставілі ў касцёле Святога Крыжа. А потым тую панну за сябе ўзяў, і тады ж яму прыдана да таго Габданка крыж, і для таго названа той герб Дубня.

І так даканалася паланенне праз Літву святога крыжа ў Польшчы. А па тым паланенні ўчыніў Ягайла граніцу з Ляхамі па Белую Ваду, то бо па раку Віслу.

# Пра Андрэя Намiру, як Вiтаўту раiў

Ў год 1406 сталася так вялікаму князю Вітаўту. Будучы яму ў прыязні з зяцем сваім вялікім князем Васіліем Дзмітрыевічам* Маскоўскім, і сталася так. Мужыкі маскоўскія, прыйшоўшы пад Пуціўль, і паграмілі сеўрукоў* Вітаўтавых, узялі ў іх два бабры а тры кадзі* мёду. І яны жалаваліся аб тое
1406 Вітаўту ў Вільні аб разбой такі. І Вітаўт пасылаў да вялікага князя Маскоўскага, каб вінных знайшоўшы, паказніў, а шкоднае сеўрукам яго аправіў, і князь Маскоўскі то ў нядбаласць займеў.

І князь вялікі Вітаўт, не хочучы таго цярпець, сабраўшы войскі свае, і пайшоў проці вялікага князя Маскоўскага, помсцячы крыўды сваёй, і многа папаліў, і паваяваў, і паланіў каля ракі Угры і Акі.

І маскоўскі, слышаўшы тое, паслаў да цесця свайго вялікага князя Вітаўта, мовячы тым абычаем: “Гаспадзіне княжа вялікі Вітаўце. Ты мне як айцец, гневу на мяне не май, я ў тым не вінен, што ліхія людзі без майго ведама ўчынілі, а калі ж бы тых ліхіх людзей знайшоў, каторыя сеўрукам тваім шкоды пачынілі, я бы табе шыяю павыдаваў іх. А калі ж я не магу іх знайсці, я вялю табе шкоду аправіці, і для таго на мяне не гневайся, а зямлі маёй не казі, а ўбачся, твая міласць, са мною”.

І князь вялікі Вітаўт на просьбу яго прыехаў да ракі Угры, узяўшы з сабою аднаго пана літвіна імем Андрэя*. І князь вялікі Маскоўскі, бачачы цесця свайго вялікага князя Вітаўта праз раку, і ўзяўшы з сабою таксама аднаго баярына, убрынуў на конях да паловы ракі Угры і пачаў вялікага князя Вітаўта прасіці, каб таксама ў раку ўехаў а з ім бачыўся.

І князь вялікі Вітаўт, убрынуўшы ў раку з панам Андрэем, прывітаўся з князем вялікім Маскоўскім. І пасля многіх размоў між сабою мір учынілі і граніцу землям сваім па Угру раку паклалі. І паслаў Вітаўт пана Андрэя да войска свайго, павядаючы, што ўжо з вялікім князем Маскоўскім Васіліем Дзмітрыевічам мір учыніў.



Але Андрэй літвін крыкнуў: “Не міры, Вітаўце, не міры! Бо ў самай рэчы мы з масквою яшчэ не біліся. Не ёсць правы мір, дзе кровапраліцця між гаспадарамі не было”. І князь вялікі Вітаўт мовіў: “Браце мілы, што сталася, таму не мінуцца, ужо я слова свайго жадным абычаем адмяніці не хачу, няхай ужо будзе пакой”. І так для тое прычыны таго пана Андрэя празвалі Нямірам, і з таго пакалення названы ёсць род яго – паны Неміровічы.

А затым вялікі князь Вітаўт з зяцем сваім вялікім князем Васіліем Дзмітрыевічам Маскоўскім, мір і пакой вечны ўчыніўшы і граніцу па раку Угру паклаўшы, раз’ехаліся з усімі людзьмі сваімі розна.

# Пра бітву пад Дуброўнам

Ў год 1410 паўсталі немцы прускія, хочучы Польшчу і Літву да грунту выгладзіці а ў іх землях асесці. Ягайла, кароль Польскі, а брат яго вялікі князь Літоўскі Вітаўт сабралі між сабой войскі вялікія: кароль Ягайла з усімі
1410 моцамі каруны Польскае, а князь вялікі Вітаўт з усімі сіламі літоўскімі і рускімі і з дзвюма ордамі татарскімі, каторых год цэлы коштам сваім хаваў.

Кароль Ягайла пераправіўся праз Віслу з усім войскам сваім і ўсім абозам і стаў на дзень святых апосталаў Пятра і Паўла ля Стырберка. А літва з татарамі цягнулі проста ў прускія воласці, дзе татары з літвою, ідучы, без жаднай міласці людзей секлі а воласці палілі. Потым, калі зышліся ўсе войскі польскія і літоўскія да купы, кароль Ягайла і князь вялікі Вітаўт цягнулі да бітвы ляснымі а злымі дарогамі, а поля роўнага а шырокага не маглі меці, дзе бы да бітвы спыніцца, але толькі былі палі роўныя а вялікія пад горадам нямецкім пад Дуброўнам, і там разбілі намёты і табар, як звычай. А ў тым* містр з усімі прусакамі і крыжакамі ліфлянцкімі прыцягнуў і зараз прыслаў паслоў да караля на фрызах* у зброях дашчатых, ледзьве рушачых. Яны мовілі да караля: “Каролю польскі! Містр наш цябе з братам тваім Вітаўтам здаровае і ў той патрэбе два мечы вам прысылае, каб да патыкання не трывожыўся і зброю да патыкання смела на сябе ўклаў, каторую то зброю містр табе прысылае, а калі поле цеснае маеш, саступіць табе свайго”.

Кароль на тые мечы мовіў: “Хаця ў мяне досыць мечаў і зброі ёсць досыць, аднак за той дар я з братам сваім вашаму містру дзякуем. Дасць Бог, тымі ж мечамі будзем на карках вашых гартаваць іх”. А ўзяўшы мечы ад іх, казаў салву* даць з ста гармат агню, аж зямля задрыжала.

А быў гетманам найвышшым у войску Ягайлавым пан Спытак Спыткавіч, а ў Вітаўтавым войску дворны гетман пан Ян Гаштоўт. І казалі тым гетманам войска шыхаваці і гуфы да бітвы станавіць. Потым ударылі ў катлы*, у сурмы*, і зараз літва з татарамі з вялікаю прудкасцю* скочыла на немцаў, і пачалася бітва між немцамі і войскамі літоўскімі, што конь аб каня бокам аціраўся, і многае мноства з абедзвюх старон, войска літоўскага і нямецкага, пала. Вітаўт там, бегаючы, сваіх напамінаў і шыхі паправаваў.

Потым, відзячы князь вялікі Вітаўт, што войска яго дужа многа пабіта, а ляхі ім жаднае помачы ўчыніці не хочуць, і князь вялікі Вітаўт прыбег да брата свайго караля Ягайла, а ён імшы слухае. І Вітаўт мовіў так: “Ты імшы слухаеш, а князі і паны, брацця мае, мала не ўсе пабіты ляжаць, а твае людзі жаднае помачы ім учыніці не хочуць”. І Ягайла яму паведаў: “Мілы браце, жадным абычаем інакш учыніці не магу, толькі мушу даслухаць імшы”. І казаў гуфу свайму каморнаму* на ратунак пацягнуці, каторы ж гуф, войску літоўскаму ў помач прыцягнуўшы, і пайшоў з войскамі літоўскімі, і пачалі немцы ўцякаці, а літва з татарамі ганілі іх, б’ючы, рубаючы, колючы, на колькі міль, а кунтараў* імалі і вязалі, а самаго містра пруската Ульрыка просты драб ашчэпам прабіў. І вялікае мноства немцаў паймалі і пабілі, а іншыя войскі ляцкія нічога ім не памагалі, толькі на тое глядзелі. У той бітве не ўсе нашы біліся, іншы і шаблі не дабываў, бо было поле цеснае.

А Вітаўт татар з літвою ахвотаю пусціў, бурачы Прусы агнём і мечам, і літва, русь, татары ўсе Прусы зваявалі і сплюндравалі. А потым, усіх іх паразіўшы, і многія гарады і землі іх пабраўшы, з вялікаю чэсцю і з невымоўнаю перамогаю, на ўвесь свет знакамітую славу асягнуўшы, да сваіх зямель вярнуліся.

# Пра паноў Алёхну і Вола, як каралю Казіміру жыццё ўраталі

Ў год 1454 кароль Казімір, калі прыняў у абарону сваю Прусы, зараз паднёсся ваяваці крыжакоў і зараз узяў Бродніцу, Мальбарк, а Крольніцу аблёг. І паны ляцкія паслалі да паноў літоўскіх, просячы аб помач, і паны-рада
1454 Вялікага Княства Літоўскага на патрэбу паноў польскіх выправіла ўборзе пяць тысяч людзей конных, княжат, панят і дваран літоўскіх на помач ім. І паслалі над імі гетмана пана Алёхну Судымонтавіча, намесніка Полацкага, каторы ж быў падчашым у караля Казіміра. І калі тыя людзі літоўскія да караля прыйшлі, кароль Казімір уборзе выцягнуў з усімі сіламі сваімі ляцкімі і з літвою, што на помач прыйшлі, да Хвойніц*.

І ў Хвойніцах войскі ўсе сшыхаваўшы і справіўшы гуфы, выбраў Казімір сябе сцерагчы шэсць паноў ляцкіх а шэсць паноў літоўскіх: найпярвей пана Алёхну Судымонтавіча, а пана Багдана Андрушкавіча, а пана Яна Кучука, а пана Станьку Касцевіча, а пана Івана Ілініча, і на кожнага з іх уклаў такую зброю, як на сябе, а шляхцічу Волу казаў за сабою каня падводнага* вадзіці.

І так Людвік, містр крыжацкі, сабраўшы вялікае войска крыжацкае, ударыў з вялікім пудам* на палякаў, а палякі з літвою, ушыхаваўшыся, ударылі на крыжакоў. Але палякаў першая ахвота зараз устала і тыл падалі крыжакам, а кароль вялікім голасам крычаў на сваіх, каб стаялі ў справе. Відзячы кароль, што палякі ўцякаюць, і сам скочыў уцекі, а ніхто за ім не трапіць, толькі тыя пяць паноў літоўскіх, каторыя яго сцераглі, а шосты Вол з канём яго падводным.

І бегучы ім, і трапяць на гуфы пешых людзей, і паткаюцца з імі, і кароль быў блізка тых пешых людзей і бліжшы быў ку пайманню. І Алёхна Судымонтавіч, хочучы караля ратаваць, заклікаў на сваіх таварышаў: “Брацця мілая, ратуйма таго рыцара!” І жаўнеры крыжацкія слышалі тое і караля апусцілі за рыцара, а даўнімалі каралём пана Алёхну Судымонтавіча або каго між тых таварышаў яго, і кінуліся да іх, і іх паранілі, і паймалі, а кароль у той час уцёк, а за ім Вол з канём.

І прыбег да аднаго балота, а конь пад каралём у гразь запаў, а немцы за каралём гоняць. Тады Вол скінуў з сябе адзежу, і рассыпаў стрэлы, і пачаў страляці, і колькі немцаў раніў, а так немцы нападаць на іх не смелі. А так немцы вярнуліся да сваіх крыжакоў, а кароль выбрынуў з балота пехатою, і даў яму той шляхціч Вол свайго каня, і прыехаў з каралём да Хвойніц.

І тады паткаў яго перад Хвойніцамі пан Кракаўскі, пан Рутвянскі*, і мовіў: “Хвала пану Богу, што тваю міласць здаровага відзім”, і паткаў караля ў стырцы*, бо ў лазні мыўся. І кароль Казімір, заплакаўшы, мовіў: “Пане Рутвянскі, вы ў лазні вадою мыліся, а мае верныя слугі літва ў руках непрыяцельскіх кроўю абмываюцца”.

# Пра князя Канстантына Астроскага, вялікага гетмана Літоўскага

Ў год 1514 князь вялікі Маскоўскі Іван Васільевіч, узяўшы Смаленск, 80.000 ездных з гетманам сваім выправіў на спусташэнне Вялікага Княства Літоўскага і цягнуў той гетман да Оршы і да Друцка. Учуўшы тое, кароль
1514 Жыгімонт рушыўся з Менска да Барысава, маючы пры сабе 30.000 люду коннага і пешага. Іван Васільевіч, князь Маскоўскі, учуўшы аб малым войску пры каралю Жыгімонце ў Барысаве, зараз паслаў да таго войска свайго, каторага быў выправіў на пусташэнне Літвы, каб проста да Барысава на Жыгімонта караля цягнулі. Тады бучныя войскі маскоўскія, за расказаннем князя свайго, пад абозы каралеўскія над Бярэзінаю ракою прыцягнулі. Кароль Жыгімонт выправіў проці іх слаўнага гетмана Канстантына Астроскага, каторы ва ўсім мудра паступуючы, перабыўшы раку Бярэзіну з гарматамі і гакаўніцамі*, напаў на войска маскоўскае, громячы яго і б'ючы, і зараз 20 палкоў паразіў, а літва і палякі з добраю надзеяю на непрыяцеля ўставічна нападалі.

Гетман вялікі маскоўскі Іван Андрэевіч Чэлядзін з усім войскам маскоўскім рушыўся назад за Днепр, хочучы сабе месца слушнае да бітвы ўгледзець, а князь Канстантын за ім з войскам літоўскім, рускім і польскім цягнуў аж на Днепр пад Оршу. Там жа літоўскае войска зараз пачынілі масты і праз Днепр з вясёлым сэрцам парадна* пераправіліся ўсе ў цэласці, толькі адзін з іх утануў.

Масква ў трубы і бубны свае ўдарылі, прапары* свае бучна распусціўшы, скочылі на літву. А Канстантын Астроскі зараз даў ім адпор, мужна сам стоячы на чале, напамінаючы сваіх да бою, што сорам уцякаці, бо ці маеце гінуць па лясах і дарогах, то лепш на пляцу легчы з несмяротнаю славаю. І была вайна вялікая, бо масквы было пяцькрот больш, ніж літвы, русі і палякаў. І памог Бог войску літоўскаму, што ўсю маскву нагалаву пабілі і найстаршых ваяводаў іх паймалі, а дзяцей баярскіх жывых прыведзена лічбаю 596, тых усіх паслана па замках літоўскіх да вязеня, а іншыя маскалі ўсе пабіты, і сам гетман іх Іван Андрэевіч Чэлядзін на пляцу забіты быў. Учуўшы тое цар іх, што ўсё войска яго маскоўскае нагалаву збіта, збаяўся і пабег да Масквы з Смаленска.

Потым кароль Жыгімонт войска распусціў, граніцу жаўнерамі асадзіўшы, а князя Канстантына з трыумфам у Вільні ўдзячна прыймаваў і да Астрога, удараваўшы, адпусціў.

Канстантын Іванавіч, князь Астроскі, гетман Вялікага Княства Літоўскага, ваявода Троцкі, рыцар заволаны*, пабожны, мудры, слаўны, пераможца над татарамі і масквою, памёр і пахаваны ў год 1535 у Кіеве, у манастыру Пячэрскім, у царкве Прачыстае Багародзіцы.

# Як Радзівіл і Кміта маскву разграмілі

Ў год 1564 вялікі князь Маскоўскі, затрымаўшы паслоў літоўскіх у сябе, каторых быў паслаў да яго кароль, сабраў войска вялікае і выправіў з ім Пятра Срэбранага і царэвіча Казанскага, прыказаўшы Срэбранаму, каб
1564 няшчадна бурыў Літву. Меў той Срэбраны войска з сабою 80 тысяч, а з Полацка* іншаю дарогаю рушыўся Пётр Шуйскі з 50 тысячамі конных. І мелі тыя войскі з Шуйскім і Срэбраным сцягнуціся на палях Друцкіх. Срэбраны стаў абозам у дзвюх мілях ад Оршы, а Шуйскі на Чаінскіх палях у селішчы Іванкаўскім Варкалабаўскім.

Аб ім Мікалай Радзівіл, ваявода Троцкі, гетман вялікі Літоўскі, з Грыгорыем Хадкевічам, кашталянам Троцкім, гетманам польным, і з Багданам Саламярэцкім, Богушам Карэцкім, княжатамі, даведаўся, маючы ад шпегаў пэўную вядомасць, дзе абозам стаіць, і хутка згатаваўся, маючы з сабою войска чатыры тысячы. З тым тады войскам сваім на так вялікае войска маскоўскае ў вячэрнюю гадзіну 26 дня студзеня гетман Радзівіл ударыў за прыводам* Грыгорыя Хадкевіча, дзе за помаччу Божаю збіў масквы 45 тысяч, а да Полацка ледзьве ўцякло масквы 5 тысяч, і то мала не ўсе раненыя.

Там жа і сам Шуйскі, уцякаючы ранены, ад мужыка сякераю забіты палёг, каторага потым у Вільні ў царкве Святой Прачыстай пахавана. Там жа і іншых княжат і баяр многа пабіта, а пайманых з абозам і з вялікімі лупамі* гетманы, паны і рыцарства літоўскае між сябе разабралі, а пераднейшых вязняў да караля, на той час у Варшаве будучага, адаслалі.

Другое войска большае, у каторым 80 тысяч з Срэбраным ад Оршы міль дзве ляжала, Філон Кміта, ваявода Смаленскі, тым фортэлем* стрывожыў: паслаў да Дуброўна з лістом, даючы знаці аб свежай перамозе над масквою і аб забойстве Шуйскага, і казаў тым сваім пасланцам ехаці, дзе разумеў, што іх маскоўская стража мела паймаці – а так і паймала. А калі прывялі іх да Срэбранага, а прачытаў ён тыя лісты, так стрывожыўся, што, пакінуўшы ўсе абозы, намёты, возы, гармат пяцьсот, порахі, скарбы, сам з усім зараз пачаў уцякаці. А Філон Кміта, ваявода Смаленскі, і Юрый, ваявода Мсціслаўскі, не маючы больш над дзве тысячы войска добрага, ганілі іх, б'ючы, сцінаючы і імаючы.

Потым, калі так масква была разгромлена, нашы ўзялі возаў 25.000 і вельмі вялікія здабычы, грошай два мільёны, шат размаітых і жыўнасцей (бо яму расказаў быў цар Маскоўскі цягнуць аж да Варшавы), панцыраў і бехцераў*, гармат 500, усё тое везлі за войскам, а вязняў маскоўскіх было 6.000.

А так тыя два маскоўскія вялікія войскі дзіўнаю Божаю сілаю былі пераможаны. А так маскаль сядзеў ціха ад таго часу.

# За што Магілёву герб наданы

Ў год 1661, месяца лютага 1-га дня, на святога Трыфана, маскоўскую
залогу мяшчане магілёўцы ў Магілёве выцялі. І трох ваяводаў – Сямёна
Савіча Гарчакова, Матвея Андрэевіча Палуехтава і Сямёна Іванавіча Чэкіна,
галаву стралецкага – узяўшы каторых, да караля Яна Казіміра праз пасланых з
горада паноў – Пятра Казановіча войта, Васіля Левашкевіча, Язэпа Пору,
1661 бурмістраў – адвезлі і аддалі. За каторую так значную адвагу і прыслугу цэлай
Рэчы Паспалітай нададзена гораду пячатка вялікая: на крывавым полі тры
вежы, у браме адчыненай з дабытым мечам рыцар збройны, а наверсе ў
сярэдняй браме Пагоня Літоўская з надпісам вакол языком лацінскім *Sigillum
civitatis Mohiloviensis**, як тут бачыш.

Водцам таго збіцця маскоўскай залогі, за парадай на той час галоўных мяшчан, быў Пора, бурмістр, з памочнікамі сваімі на то адважнымі. Так моцная на той час была рада між мяшчанамі, што кожны гаспадар уначы свайму на гасподзе стаячаму салдату вышрубаваў скалку ад флінты*.

І калі ўжо тэрмін і гадзіна прыходзіла, Пора, бурмістр, меў пад сукняй схаваны палаш катаўскі, а калі абачыў, што маскалі гвалтам бяруць пірагі ў пякарак меских, пераджагнаўшыся, пачаў маскву рубаць, а тым часам на гвалт у звон брацкі ўдарылі, стаўся турмульт*, розрух, бой, вайна. І пачалі былі масква браць гору, але нейкі мяшчанін адбіў турму, дзе вязняў палякаў вялікая і значная была купа. Тыя вязні шмат дадалі помачы, бо ў колькі гадзін маскву збілі і паабдзерлі. А мяшчан у тым баі мала забілі, толькі некаторых ранілі.

Герб за тыя заслугі такі гораду наданы:



# Як ад гетмана Паца маскаль пад мост схаваўся

Ў год 1664 гетман Літоўскі Міхайла Пац (а тады яшчэ ён быў рэгіментарам*) з Хаванскім, ваяводам маскоўскім, пад Віцебскам на Вобалі* меў патрэбу* так патужную*, што аж дашчэнту Хаванскага знёс. І калі
1664 б пад мост сам Хаванскі не схаваўся, быў бы ўзяты. Каторы потым, калі ад цара прыйшла грамата аб паведамленні, які быў бой, тады так казаў пад'ячаму*: "Пішы, што роўны быў бой з панам Пацам, д'ябла роўны, калі я пад мост схаваўся".

Потым таму ж Пацу, калі ўжо быў гетманам, трапілася, што маскаля шпега злапалі, каторага ён казаў быў абвесіць. Паслаў жаўнера, пытаючы, якой смерцю жадае памерці. А той адказаў: "*Право, ні на што охота не берёт*". І так дзеля смеху ўвольніў яго ад смерці.

Міхайла Пац, ваявода Віленскі, гетман Вялікага Княства Літоўскага, быў водца і спраўца ў ваенных рэчах дасканалы. Даўся той ваявода ў знакі розным народам, так нямецкім, туркам, татарам, і маскаль яго не забыў за колькі гадоў.

# Бартко Ходзька

Паехалі мы да Любліна на трыбунал утроп за князем Радзівілам. У брычку, на якой я ехаў, дадалі мне Барталамея Ходзьку, двараніна князя. Добры маладзік, але зух, якіх свет не бачыў. Яго бацька меў значныя маёнткі ва
1776 Упіцкім павеце і колькі разоў быў дэпутатам у трыбунале, але не мог даць рады сыну, такі той быў зачэпа. На шчасце, быў прыяцелем дому Радзівілаў, а князь-ваявода любіў шляхту, спрытную з шабляй, таму бацька і аддаў яму сына, каб стаў нясвіжскім дваранінам.

Ходзька росту быў невысокага, хударлявы, з аблічча нязграбны, але я, колькі жыву, не бачыў чалавека такое моцы і так спрытнага ў баі на шаблях. У яго быў тонкі палаш, які ён называў смычком. Ён любіў у незнаёмай кампаніі паказацца гэткім цюхцяем, дазваляў жартаваць з сябе, потым адказваў груба,

адмыслова, каб яго выклікалі на бой, трохі выпіраўся, нібыта перапрашаючыся, а потым, нібыта прымушаны, браўся за зброю, сцінаў і калечыў тых, хто яшчэ не ведаў яго.

І вось прыехалі мы да Любліна. Пасля абеду мы з Барталамеем пайшлі шпацыраваць, выйшлі за горад па Львоўскім гасцінцы і ўбачылі за старымі ліпамі карчму, а перад ліпамі на ўзбоччы гасцінца вялікі камень – жоран ад млына. Ля карчмы я ўбачыў колькіх маладзікоў з палестры*, як пазнаў па пунсовых люблінскіх кунтушах*. Я пакланіўся ім, яны мне, і я зайшоў у шынок. Калі выйшаў з карчмы, бачу, што пан Барталамей сядзіць на камні, а каля яго ўсе тыя маладзікі. Яны сталі колам ля яго, а ён паглядаў на іх, як разявака. Я адчуў, што тут пахне сваркай, падышоў бліжэй, а Барталамей мовіць да мяне, зрабіўшы твар румзы:

– Пане Севярыне, дабрадзею, гэтыя паны нешта мовяць да мяне сваёй караняжаўскай* мовай, я іх не зусім разумею.

Аж адзін з пунсовых паноў кажа мне:

– Васпан, можа, не ведае, што гэта млын палестры, вось камень, а мы кола. Хто датыкнецца да гэтага каменя, мусіць выйсці з яго або мукой, або крупамі.

Я адказаў, што ўжо стары, каб з мяне жартавалі, што я абараняю інтарэсы князя Радзівіла, Віленскага ваяводы, ды што са мной дваранін князя пан Барталамей Ходзька, падсудак* упіцкі.

Адзін з пунсовых паноў мовіў:

– Панове, гэта ўмацаваны* князя, ён не дакрануўся да каменя, не маем права яго малоць, а вось пан падсудак, што ўжо сеў на ім, не выкруціцца.

Барталамей кажа:

– Як жа мяне маеце малоць, калі не з свайго шпіхлера* дасталі?

– Калі даткнуўся да нашага каменя, то ўжо ты з нашага шпіхлера.

– А як жа вы будзеце мяне малоць?

– Слухай, браце, ці ты карабэлю* носіш толькі для аздобы?

– А для аздобы.

– Тады мы цябе вывучым, як з ёю маеш абходзіцца. Уставай ды дабывай шаблі!

– А ці не лепей было б вам папіць піва, адчапіцца ад мяне ды змалоць кагось з вашых, бо літоўскае збожжа добра прасушанае і цвёрдае.

– Вось абачым, ці цвярдзейшае яно за нашае. Я маршалак кола, таму з мяне трэба пачынаць.

Барталамей пачаў хусткай быццам уціраць слёзы з вачэй:

– О, бедная мая матуля, як жа яна будзе плакаць па сваім Бартку.

Тут я:

– Панове дабрадзеі, паслухайце мяне, старэйшага векам за ўсіх вас. У гэтым самым Любліне зрабілася унія Кароны з Літвой*. Парушацца косці продкаў нашых, калі літвіны з палякамі ў гэтым месцы паб'юцца. А ці не лепей на памятку караля Людвіка*, айца каралеўны Ядзвігі а цесця нашага Ягайлы, схаваць колькі венгрынаў* у страўніку?

Палестра пачала мякчэць і нехта азваўся да маршалка:

– Дай пакой гэтаму літвашу, ён не ведаў аб правах нашага кола.

Тут ужо пачаў баяцца пан Барталамей, каб сварка не абярнулася ў нішто, і азваўся:

– А што, васпан ёсць маршалкам гэтага млына? А ў Літве ў млынах мельнікі і вепрукі сядзяць, а не маршалкі.

Маршалак:

– Слухай, браце, трымай язык за зубамі і да нас з жартамі не выступай, калі не хочаш, каб мы цябе злупцавалі.

– Не гневайся, васпане маршалку, ужо не буду жартаваць, але папраўдзе мовіць. Мне цыганка па дарозе наваражыла, што маю загінуць з рук вялікага блазна: таму, калі глянуў на васпана маршалка, вельмі злякаўся.

Тут ужо не можна было даць рады. Маршалак ледзьве не покнуў з злосці і, дабыўшы шаблю, з імпэтам кінуўся на Ходзьку. Той ледзь паспеў скочыць за камень, выхапіў свой смычок, не забыўшы плюнуць у руку, і з першага ўдару так даў таму па руцэ, што шабля выпала з рук маршалка. Другі кінуўся на Ходзьку з вялізным палашом. Але ледзьве пару разоў яны сышліся, і другі атрымаў смычком па лбе. Устаў трэці, ён трываў трохі даўжэй, але таксама дастаў смычком па лбе.

– А ты д'ябал, а не літвін, – аказаліся кароняжы. – Паводле правоў нашага млына, хто тры разы біўся, ёсць вольны ад усякай да нас павіннасці.

А я, жадаючы суцешыць іх, мовіў:

– Няхай васпаны не крыўдуюць, што вам не пашчасціла з маім калегам, бо ён першы рубач у Літве.

У дарозе назад я ўпікаў трохі пана Барталамея, але яго яшчэ больш, ніж раней, палюбіў, бо ён утрымаў такі гонар Літоўскага краю.

# Споведзь рыцара

Я адзін рыцар быў у панстве некаторым ды быў дужа строгі – нікому ніколі не папусціў, адно праз бой. Той рыцар ехаў канём міма адной царквы і, спомніўшы сабе аб злосцях сваіх, там каня прывязаўшы, увайшоў да царквы а, паклякнуўшы*, стаў споведзь чыніць перад духоўным. Спаведнік за яго грахі казаў яму, каб два гады пакутаваў. Ён мовіў: "Не магу". Тады праз паўгода яму казаў пакутаваць. Ён адпавядаў: "Не магу". Потым праз тры тыдні, потым праз тры дні, а ён не хацеў. Мовіў яму спаведнік: "Як ты так нораву цвёрдага, а то ж табе даю, каб праз адну ноч тут на малітве пераначаваў, чаго Бог табе няхай паможа, толькі стала трывай, а ніколі не бойся, кром Госпада Бога". Той рыцар, паклякнуўшы перад абразом Прасвятое Багародзіцы, стаў на малітве і каня не глядзеў.



А ў першую гадзіну ночы стаў шум вялікі каля царквы і мовіў, стаўшы, сатана: "О брацця і слугі мае! Што ўчынім? Вось наш прыяцель, каторы заўсёды нашу волю чыніў, цяпер, калі яго з той царквы праз тую ноч не выжэнем*, ён наш не будзе!" Тады адзін мовіў д'ябал: "Пане! Калі мне скажаш, я пайду а яго той час выбаўлю!". Тады яму дазволіў. Тады д'ябал пусціў страшны пажар агністы каля царквы, аж у абалоні полымя стала шыбаціся, а ён пачаў з другімі шатанамі крычаць: "Уцякай, уцякай, а то згарыш тут марна,

пакуль дзверы не заняліся, бо пагадзя ўжо не выхапішся”. А рыцар мовіў: “То не можна, каб я адтуль меў выйсці, абы і згарэў, бо мне то дадзена за пакуту”. Той агонь гарэў моцна, а потым згас.

Тады служкі сатаны радзіліся, як бы яго маглі вывесці. Была ж у таго рыцара сястра родная, вельмі мудрая, ад каторай ён раду заўжды зажываў. Д’ябал, што ўчыніўшы, робіцца ў постаць сястры яго і, прыйшоўшы да яго, мовіць: “Наймільшы мой браце! Як жа тут на тым месцы начаваць важыліся? Хто вас зле радзіў? Дыкжэ ідзіце ж дадому што хутчэй, каб і нам што злога не перашкодзіла”. А ён мовіў: “Бы мне найгоршая якая рэч трапілася, адсюль не пайду, бо то мне дадзена за пакуту”. Тады сястра мовіла: “А то ж, калі мяне не слухаеце, ніколі вам у парадзе жаднай не буду!” У тым пайшла прэч. А прыйшоўшы да сваіх, пабег як было сіл, а не мог адвесціся*.

Тады яшчэ адзін мовіў: “Пане! Мне кажы, і яго адтоль выведу”. А ён яму дазволіў. Тады той сатана нарадзіўся таго рыцара жонкаю, а прыйшоўшы да яго з распушчанымі валасамі, і дзяцей двое перад яго прынес, мовячы: “Што ж так робіце тут непадбаве* – вунь то якіясь лотры*, напаўшы на наш замак, чэлядзь разагналі, усё пабралі, мяне, як відзіш, абнажылі, вось уцякла з дзецьмі тваімі двума сынамі, для таго ж змілуйся над сабою і нада мною, паспяшайся за імі, узяўшы люду астачу: можам памсціціся над імі сваёй крыўды”. Тады ён адпавядаў: “Каб мне тут прыйшло і да смерці, не пайду з гэтага месца”.

Тады яна мовіла: “Знаць, мяне не любіш, ані дзяцей сваіх, дыкжэ вось табе дзеці твае!” І моцна ўдарыла аб зямлю, тыя дзеці, плачучы, лазілі, а ён на іх не глядзеў.

Тады тое ўсё пагінула. А пакусы зноў радзіліся, што з ім пачынаць, потым адзін сатана ў постаць святара перамяніўся, а прыйшоў да царквы з ляхтарняю, свечку на алтары засвяціў і мовіў да рыцара: “Чаго тут бавішся? Ідзі прэч, а то пачну служыць утрэню”. Пайшоўшы, пазваніў і знову мовіў: “Ідзі ж адсюль, бо ты пракляты, не годзен, каб пры табе пачаў служыць, бо я ведаю, што ты так і так грашыў”. Адпавядаў рыцар: “Не пайду я аж да самага світа*, бо то мне дадзена за пакуту”. Тады і той сатана згінуў.

А рыцар на дзень заўтрашні каня знайшоў, здаровую жонку, і дзяцей, і сястру, і ўвесь маёнтак цэлы, а спаведнік яго развязаў ад усіх грахоў. Такая яго пакута Богу стала прыемна на прыклад і нам грэшным. Калі шчырым сэрцам пакуту будзем чыніці, то і нас Бог прыме да сваёй хвалы.

# Рыцар, які шукаў “баюся”

Быў сабе адзін пан, вялікі рыцар, і ён нічога не баяўся ды яшчэ казаў, што ён невядома што даў бы, каб адно яму хто паказаў, якое гэта “баюся”. Але вядома, ніхто яму не паказаў, так ён аднаго разу кажа да хлопца: “Запрагай коні, паедзем у свет шукаць таго “баюся”. Ну так той, хочучы не хочучы, запрог, дый паехалі.

Едуць яны так, едуць, едуць, едуць, але нідзе не чуваць і не відаць “баюся”. Ажно аднаго разу захапіла іх ноч серад чыстага поля, калі глянуць – ажно на горцы такі агонь палае! Так то пан кажа: “Ідзі паглядзі, што там такое?” – “Калі, пане, баюся!” – “От, дурню ты, чаму ж я не баюся? Злазь з каляскі!” Хлопец то злез, а ён сеў і паехаў пад тую горку.

Пад’яжджае, ажно там такі скарб! Так набраў поўну калясачку, дый пад’ехаўшы да хлопца, кажа: “От, бачыш, ты баяўся, а я, паглядзі, чаго набраўся! Сядай і едзьма дахаты”. Як прыехалі, так кажа: “Перапражы, хлопча, коні, паедзем яшчэ гэтае ночы шукаць “баюся”. Так і паехалі.

Едуць яны так, едуць, ажно назаўтра захапіла іх ноч каля могілак. “Ну, – кажа той пан, – не варта нідзе ехаць далей, начуйма тут”. А таму хлопцу аж валасы дубам сталі і вушы завялі, дый то кажа: “А ей, паночку, я тут баюся!” – “Ну калі так, – кажа пан, – то будзем тут канечне начаваць – я хачу хоць раз угледзець “баюся”. Так выпраг коні – ніішто рабіць, калі наняўся, то як запрадаўся! Ну, хлопец той загнуўся з страху ў брычцы, а пан пайшоў на могілкі дый то лёг сабе на свежай магіле.

Ляжыць, ажно няўбаве калі затраскаціць нешта, зямля расступілася, дый то вылез мрэц у белым і пайшоў. А пан як ніколі нічога, ляжыць сабе. Ажно паждаўшы крыху, ідзе мрэц назад, так пан у труну. Той прыйшоў, панюхаў: “Хто тут?” – “Я!” – “Пускай!” – “Не, не пушчу!” Той давай прасіць. “Не, не пушчу!” Цэрталіся яны, цэрталіся, нарэшце певень “какарэку”! Так той мрэц бурждэнк! дый перакінуўся каля магілы. Так то пан, вылезшы з труны: “Янку! – крычыць, – нясі мяшка, ёсць ужо адно “баюся”. Хлопец прыбег, калі гляне, што гэта мрэц, мала не памлеў з страху, але што рабіць, усадзіў у мяшок дый панёс на каляску.

Тым часам ужо пачало світаць, так паехалі далей, а пан такі ўжо рад, што прынамсі хоць аднаго знайшоў страха. Ужо было на адвячоркам, як прыехалі да адной карчмы, так пан кажа да карчмара: “Ці не можна было б тут пераначаваць?” – “Вядома, – кажа карчмар, – я пану не шкадую, але і не раджу”. – “Чаму?” – “Калі тут нешта страшыць – я сам баюся”. – “О, таго я і

хачу! Выпрагай коні дый прынось таго гіцля* сюды!” Хлопец зараз прынёс, коні выпраг, і лёг той пан спаць.

Спіць, спіць, ажно ў глухую поўнач зрабіўся такі грукат, стукат, дый нешта мічыць пад печчу: “Лезу! лезу!” А пан: “То лезь, калі лезеш!” Так той зноў пад печчу: “Рука, рука, рука!” А пан: “Давай сюды руку!” Так то зноў: “Нага, нага, нага!” А пан: “Янку, – кажа, – давай сюды нашага!” Хлопец то зараз вытрас з мяшка гэтага мерца, тады як не счэпяцца, як не стануць рвацца зубамі, а пан усё бегае навакол іх да ўсё крычыць: “Мой твайго бяры! мой твайго бяры!” Біліся яны, біліся, аж у тым певень “какарэку!” – так яны бурждэнк! абодва, дый пападалі нежывыя.

Тады пан казаў забраць у мяшок абодвух, паўносіць на каляску, дый кажа да таго карчмара: “Ну, ужо цяпер не бойцеся нічога, бо я забраў вашага “баюся”!” – ды, сеўшы, паехаў.

Едуць яны так, едуць, ажно ўжо іх ноч пачала захапляць у лесе. Едуць далей, ажно ўгледзелі – серад лесу ў хатцы агонь блішчыць, так то хлопец злез, пагляну́ў праз акно, дый кажа паціхеньку: “А ей, паночку, уцякайма, бо тут разбойнікі!” А пан: “Ты што, дурны! Яны нас не заб’юць, у нас грошай няма”. Разбойнікі расклалі сабе серад хаты агонь, дый на ражон ссадзіўшы, пякуць неяку пячэню, ажно пан увайшоў дый стаў прасіцца ў іх на ноч. Так яны аглянуліся па сабе, засмяяліся дый кажуць: “То начуй!”

Так ён сабе сеў, клікнуў хлопца дый кажа: “Янку, прынясі сюды і нашу пячэню, то за адным заходам і мы сабе прыпячэм”. Так то Янка, узяўшы мерца за ногі, прывалок, а пан яго ссадзіў на меч і давай пячы. Разбойнікі чыста папалохаліся, гэту камедыю бачачы. Ён пёк, пёк, потым урэзаў кусочак, скаштаваў дый кажа: “Янку! падай свежага, бо гэты ўжо пратух”. А разбойнікі як не пойдуць як падмецены з хаты! (бо думаліся, што з іх каторага) – дый то выракшыся сваёй пячэні, усялякіх прыштукаў, грошай, пайшлі з слыхамі, пакінуўшы ўсё сваё багацце. Тады гэта і пан насоўваўся і напіўся, калі гэта парсюк, і хлопца накарміў і напаіў здаволі, а потым, загарнуўшы ўсё багацце ў скрыню, паехалі дахаты.

Прыехаў, увайшоў да пакояў, так кажа да жонкі: “Ну, сардэнька, я толькі прыехаў адвезці гэта, што мне Бог даў, а сам зараз зноў еду ў свет, бо я яшчэ не знаю, што то за “баюся”. Жонка яго так просіць, так лямантуе – ледзьве ўмаліла, каб адну ночку пераначаваў. Як прыйшла ўжо пара класціся спаць, жонка яму выслала ложак дый пад прасцірадла падсадзіла вожыка. Як лёг ён, як укалола яму ў сцягно, так давай ён крычаць: “А е-ей, баюся! баюся!” І па той раз не паехаў ужо нідзе шукаць “баюся”.

# Рыцар і Смерць

Прыпавесць аб некаторым рыцары, каторы быў і так сабе часу аднаго паехаў у поле, дзе перад тым розныя палкі пабіваў, так што і жаднага чалавека ніколі не баяўся і аб смерці ніколі не памышляў. А калі таго часу на тым чыстым полі на сваім добрым кані гуляў, і явілася яму Смерць у сваім страшным вобразе і зброю сваю паказала яму, касу крывую. І мовіць Смерць да рыцара:

– Што, чалавеча, мысліш? Не ведаеш, што цябе хачу вязаці!

Рыцар мовіць вялікім фукам*:

– Я не хачу ўвайсці і не баюся цябе.

Смерць мовіць да рыцара:

– Ці знаеш ты, чалавеча, хто я ёсць, што мяне не баішся? Ці слыхаў ты калі-кольвек аб Смерці, дагэтуль жывучы на свеце?

Рыцар мовіць да Смерці:

– Не так слыхаў, але і многа відаў, бо ратныя палкі пабіваў.

Смерць мовіць да рыцара:

– Калі ты смерці многім людзям задаваў, а на сябе смерці ніколі не спадзяваўся.

Рыцар мовіць да Смерці:

– Я ёсць уласны кароль на зямлі, я цябе не баюся. Бо я ў далёкіх краях бываў і розныя палкі пабіваў, і ніхто проці мяне не спраціўіўся, бо не мог. А ты да мяне з якіх прыйшла? І дзівуюся табе, што ты мяне ані меча майго вострага не баішся.

Смерць мовіць да рыцара:

– Бо я цябе сваёй зброяй не страшу, бо мая зброя такая: піла, цесла*, корд*, каса крывая. Піла ёсць разняцце цела, цесла ёсць адпадзенне цела, а корд мой працянне сэрцу, і крывая каса ўсіх зароўна косіць – як цароў слаўных, так і князёў вяльможных, патрыярхаў, святароў, чарняцоў і ігуменаў, багатых і ўбогіх людзей.

Рыцар мовіць да Смерці:

– Пашто ж ты сюды прыйшла?

Смерць мовіць да рыцара:

– Я хаджу паміж дарогамі, па чыстым полі, па гарадах, па сёлах, па водах, шукаючы чалавека, а знайшоўшы, зараз устрашу яго і вазьму яго да сябе.

Рыцар мовіць да Смерці:

– Што ты мяне ўстрашыць хочаш сваімі пахвальнымі словамі і крывою касою і іншаю сваёю зброяй. Абачым, хто праміж намі будзе старэйшы, бо, як бачу, бяспечна ходзіш сама без чоду*, адно зброю сваю носіш.

Смерць мовіць да рыцара:

– Заісце*, рыцару, зброю маю, каторую нашу, увідзеўшы над сабою, і акрыецца над табою.

Рыцар мовіць да Смерці:

– Не страшы мяне сваёй зброяй, бо я гатовы з сваёй усёй зброяй проці цябе стаці.

Смерць мовіць да рыцара:

– Шалёны чалавеча! Пад нагамі маімі ляжыш.

Рыцар мовіць да Смерці:

– Я хачу, каб ты пад нагамі маімі ляжала.

Смерць мовіць да рыцара:

– Шалёны чалавеча! Паслухай ты мяне. Самсон сільны быў над усімі і моўны, калі б меў кола ў зямлі, то бы ўсю зямлю павярнуў, – ды я і таго ўзяла.

Рыцар мовіць да Смерці:

– Адкуль ты сюды прыйшла? Ці я па цябе пасылаў? Ці я ведаў цябе альбо ты ці знаеш мяне? Паведай мне праўду: нашто ты касу крывую за сабою носіш?

Смерць мовіць рыцару:

– То мая каса разумеецца па ўсіх царствах: даў мне Госпад Бог уладу, каб усіх зароўна сцінала, бо я ёсць Смерць, патрэбна мяне знаці.

Рыцар мовіць да Смерці:

– Касі ты сваёю касою плод зямны, траву, што на касу належыць, быллё, крапіву. А мяне ты для чаго касіць маеш? Бо я цябе не знаў і ты мяне не знала. Па добрай волі разыдземся.

Смерць мовіць рыцару:

– Ужо ўхавай сэрца ў скромнасці, бо як іншых людзей не адпускаю, так і цябе не адпушчу.

І пачаў рыцар на Смерць ласкава глядзеці і мовіў:

– Ведаеш аб тым, Смерць, мне вельмі страшны вобраз твой, аж не магу ад страха твайго на кані сядзеці, бо ўжо суставы мне ўсе трасуцца. Прашу цябе лагодна, пайдзі ад мяне прэч з сваёю касою.

І мовіла яму Смерць:

– О чалавеча! Не пышная я, і за тым да цябе прыйшла. Не красная*, а вельмі сільная, маладых і старых, багатых і ўбогіх зароўна ўсіх пабіраю. Успомні сабе, чалавеча, ад Адама і да сёння колькі было цароў, князёў, патрыярхаў, мітрапалітаў, багатых і ўбогіх людзей, старых і маладых, – то я ўсіх пабрала, і ўсе мяне баяцца. Ці чуваў ты, рыцару, цара Давыда, што ў прароках быў прарок, – то я і таго ўзяла. Цар Аляксандр*, што над усімі караляваў, то я і таго ўзяла. А ці ведаеш ты, чалавеча, што я жаднага багацця не забіраю, а ні краснага адзення, бо я няміласціва і нікому часу надалей не адкладаю: якога часу прыйду, таго і вазьму.

А калі рыцар выслухаў ад Смерці такія словы, уздыхнуўшы, мовіў: “Ох мне нэндзнаму*! Увы мне, Госпадзе Ісусе Хрысце, Сыне Божы, ты стварыў неба і зямлю, рачыў нас дзеля смерць зазнаць!” А звярнуўшыся да Смерці, мовіў: “О гаспадыня мая Смерць! Ці явіш любоў і ласку сваю на мяне?”

Смерць мовіць:

– Ніяк не яўлю, чалавеча, табе любві і ласкі, бо мая любоў да ўсіх ёсць аднолькава, як да цароў, так і да ўсякага чалавека.

Рыцар мовіць:

– Маці мая, Смерць, маю маёмасці вельмі многа – тады табе ўсё аддаю, да сябе бяры, а мяне адпусці.

Смерць мовіць:

– Не заляцай* мне свайго багацця. Ведаю аб тым, што ты маеш скарбы вялікія, але з сабою не забярэш, толькі адну кашулю, і скарбы твае людзі пажывуць, каторыя на іх не працавалі, бо табе больш нічога не трэба, тры локці толькі зямлі, і адсюль не пойдзеш, толькі тут мёртвы ляжаш. А што сваю маёмасць мне аддаеш, то толькі грашыш, бо можаш ты знаці, што я багаццяў і скарбаў не збіраю, а калі б я багацці збірала, то бы ў мяне было несказана і неслыхана і не быў бы ніхто багаты над мяне. Цар Аляксандр Македонскі альбо тыя не мелі багацця, што ад мяне маглі адкупіціся. Але я не хачу жаднага багацця – маё багацце ёсць разлучыць усякага чалавека ад жыцця гэтага. Бо хаджу, як злодзей, патаемна, нікому не паказваюся, а нікога не губляю, тады ў чым застану, у тым і вазьму.

Рыцар мовіць да Смерці лагодна:

– Хто табе ўладу такую даў, што бярэш людзей, а цябе ніхто не возьме? Калі хочаш, жывема зароўна: над цябе і над мяне ніхто не будзе дужшы.

Смерць мовіць:

– Неразумны чалавеча! Ужо і словы твае нічога табе не памогуць а не пацешаць цябе. Хачу цябе без жаднае міласэрнасці з гэтага свету зараз парваці, як люты звер леў чалавека.

Рыцар мовіць:

– Увы мне, гаспадыня мая Смерць! Пачакай мала, прашу цябе, адхілі ад мяне гнеў свой, бо яшчэ не гатовы памерці, каб не быў хутка аддаены да прорваў пякельных.

Смерць мовіць:

– Цяпер ужо, акаянны чалавеча, хочаш каяціся грахоў сваіх, калі я да цябе прыйшла. Альбо не было перад тым часу каяціся грахоў сваіх? Калі ты ў добрах* сваіх і ў каштоўных шатах хадзіў, але тады адкладаў дзень за дзень, час за час, і чаму не каяўся тады грахоў сваіх, ані міласціну ўбогім даваў?

Мовіць рыцар:

– Гора мне, грэшнаму чалавеку! Калі ж я многім людзям смерці даваў, а на сябе смерці ніколі не спадзяваўся, а цяпер смерць прыйшла да мяне і ўзяці неміласціва хоча.

І Смерць мовіць:

– Ці слышаў, чалавеча, як Госпад Бог да вучняў сваіх і ўсіх людзей мовіць: “Чуйце і маліцеся, каб не ўвайшлі ў спакусу; бо не ведае чалавек, калі злодзей у дом яго прыйдзе красці, а калі б ведаў, то сцярэгся бы і не даў дому свайго выкрасці”. Так і табе вольна было, чалавеча, размысліваць аб сваіх грахах і аб смерці: яна не цар, ані ваявода, ані святар, але ўсіх зароўна сцінае, старога не сціць, маладога не шчадзіць.

Смерць мовіць:

– Пісьмо святое вучыць, каб дзень і ноч маліліся, каб вас Госпад Бог не знайшоў парожніх.

І пачала Смерць яго напамінаці, мовячы:

– Чалавеча, калі б ты ведаў, што смерць ёсць праведнікам пакой, дзецям весялосць, разбойнікам, каторыя на пакаянне прыходзяць, радасць вечная, даўжнікам адкупленне, плачушчым уцеха.

Чалавек мовіць:

– О гора мне грэшнаму! Гаспадыня мая Смерць! Адхілі гнеў свой ад мяне, пачакай мала.

Смерць мовіць:

– Калі вам Бог чакае, каб вы каяліся грахоў сваіх і за іх пакутавалі, то вы горш Госпада Бога абражаеце: як многа на свеце жывеце, тым больш грашыце, адкладаеце што ні дзень, а не ведаеце, у каторую гадзіну прыйду і вас калі ў чым застану, у тым і вазьму. Ужо і табе, чалавеча, жывот і душа ад цела разлучаецца, сонца заходзіць, годзе мне гаварыці з табою.

І пачаў рыцар плакаці горка, ад сэрца шчыра мовячы:

– Гаспадыня мая Смерць! Прашу цябе, дай мне хоць трохі на свеце пажыці! Няхай бы пакаяўся грахоў сваіх.

Смерць мовіць:

– Не адпушчу цябе.

Мовіць рыцар:

– Увы мне, Смерце злая! Хто цябе ўлагодзіць няміласцівую? Жадаў бы на свеце не радзіцца, што ты цяпер нада мною старшынства маеш.

Смерць мовіць:

– Шалёны чалавеча! Дзе тваё рыцарства і маладосць, дзе тваё багацце? Усё ў зямлю схаваў. Ці даў на царкву? Ці даў убогім? Які пажытак душы сваёй учыніў? Цяпер ужо, акаянны чалавеча, усю маёмасць аддаў бы, калі б маіх рук смяротных абмінуў, але ўжо не можна.

І ўзяўшы крывую касу, прыступіла да яго і пачала адцінаць рукі і ногі і ўсе суставы яго, і зараз паразіла яго Смерць. І так жывот яго скончыўся.

# Як літвін казнадзею запярэчыў

Ў год 1401 кароль Ягайла, прыехаўшы да Літвы, з Вітаўтам і панамі
літоўскімі пастанавенне і прымір'е пастанавіў. На той час адзін
казнадзея пры аблічнасці каралеўскай меў казанне аб веры ад стварэння
1401 свету і аб зграшэнні Адамавым. Тады адзін літвін, стоячы ў касцёле, крыкнуў
голасам вялікім:

– Міласцівы каралю, няпраўду той каплан апавядае, абы свет меў быці створон, бо ён чалавек малады, а мы далёка ёсць старэйшыя, а аднак таго не памятаем, а ён правіць і сам не знае што.

А кароль на то асмяхнуўся і ўважыў, то яму мовячы:

– Не апавядае той каплан таго, абы то за яго памяці стала, але колькі тысяч гадоў перад яго нараджэннем тое ўсё Госпад Бог стварыў, і ёсць то напісана, што ён, каплан, і мы чытаем уласна. Як цяпер за тваёй памяці што дзеіцца, а будзе то напісана, будуць твае дзеці, і ўнукі, і праўнукі, і апошні па нас усіх чытаці.

І так той літвін прыйшоў да памяці і ўціх, больш не крычаў.

# Гісторыя або аповесць людзей розных, веры годных, аб абразе цудоўным Найсвяцейшае Дзевы Марыі Жыровіцкім у павеце Слонімскім

Ўсяму павету Слонімскаму не ёсць тайна, што каля года Гасподняга 1500
на тым месцы, на каторым цяпер цэрквы, манастыр і раллі, была
вялікая пушча, маючая ў сабе нямала зверу. Як разумею, для жыру* вельмі
1500 спасобнага*, каторы быў у той пушчы звярам, тое месца ад продкаў Жыравам
або Жыровічамі было названа, або тэж* ад хлопя таго ж прозвішча Жыр,
каторы некаліс па часці ўжываў тое пушчы.

Да каторае пастухам слаўнае памяці яго міласці пана Аляксандра Солтана*, рыцара гробу Божага і падскарбяга надворнага Вялікага Княства Літоўскага, каторы сабе ў Казіміра Трэцяга Ягайлавіча, караля Польскага, тыя Жыровічы выслужыў, уражылася з быдлам загнаці. Каторай праходзячы, абачыў адзін з іх на дрэве грушнавым лясным быццам у агню які́м абраз стаячы, чым перастрашаны будучы, заклікаў таварыства. Каторыя прыйшоўшы, тое ж відзелі і, не рыхла* асмеліўшыся, калі ўжо агонь той гаснуў (як ім на той час відзелася), абраз узялі і пану свайму занеслі, каторага ён, узяўшы, да шкатулы схаваў.

Але Госпад Бог, каторы звык праслаўляць праслаўляючых Яго, не дапусціў найяснейшае дзянніцы* абалокамі невядомасці людское засланяць і так знамянітага скарбу ў зямлю закапаць, але хутчэй каб усім патрабуючым быў выстаўлены, і для таго вобраз з шкатулы знік. Хочучы яго бо раз пан Солтан указаці гасцям, нічога не знайшоў, чаму пабожны пан вельмі выдзівавацiся не мог. Зноў, калі тыя ж пастухі, спосабам вышэй пісаным на тым жа месцы той жа абраз знайшоўшы, пану аддавалі, здумеваўся*, не ведаючы, што меў з ім чыніць. Спусціўшыся аднак на волю Божую, ехаў сам да тое пушчы з пастухамі, відзець хочучы месца, на каторым ім абраз паказаваўся. Там прыехаўшы, доўга з вялікім падзівеннем мысліў, што бы то было, што так на незвычайным месцы знайшоўся, і ў такіх мыслях быў праз колькі гадзін у непрытомнасці, дзе дасканала аб волі Божай даведаўся. У часе потым кароткім казаў разрубіваць тую пушчу, а потым царкву спанялую* будаваць, каторая калі дакончана была, уборамі яе ўсялякімі надаў і той абраз цудоўны, у срэбра аправіўшы, у ёй паставіў і нямала прэсвітараў хаваў для адправавання параднага і ўставічнага* набажэнства.

А што мноства людзей з розных старон і далёкіх у патрэбах сваіх на тое месца святое прыязджала, так што змясціцца ў той царкоўцы не магло, збудавана потым троха большую царкву з дрэва да часу, і абраз цудоўны да яе перанесена. А ў тым яго міласць пан Іван Аляксандравіч Солтан, маршалак надворны яго каралеўскае міласці, матэрыю на мураванне царквы грунтоўнае гатаваў, каторае не даканчаўшы, з тым светам пажагнаўся*.

# Тут Бог жыве

Ў год 1565 я жыў у горадзе Віленскім, выбіраючы пабор, званы
“паглоўны”*, дзе меў вялікую ўцеху, слухаючы слова Божага ў збору
хрысціянскім за міністраў* вучоных – Вендрагорскага і Касцяніцкага, а
1565 праціўным жа абычаем* знаў вялікую ласку мужа годнага памяці князя Яна
Макавецкага, архід’якана Варшаўскага, кусташа і канонiка Віленскага, пісара
ў скарбе караля яго міласці, каторы мяне хутчэй у тыя лічбы ўправіў, і добрага
мне пажытку набавіў*, і шмат людзям у знаёмасць падаў і даручыў. Бо на той
час рознасць веры не чыніла найменшай рознасці прыяцельскай, для чаго той
век залатым мне відзеўся ад цяперашняга веку, калі ўжо і між адной веры
людзьмі аблуда ўсё аступіла, а пагатоў між рознымі веры не пытайся аб
міласць, шчырасць і праўдзівае добрае захаванне, а найбольш між свецкіх
станаў.

Помню бо нядаўна мінулых часоў, калі сённяшні папеж Клеменс* яшчэ
1585 кардыналам быў у караля яго міласці Стэфана*, у Вільні сядзеў я ў столу князя
Балтрамея Недызвіцкага, каноніка Віленскага, з пераднейшымі* слугамі
ўлохамі* яго. Тыя ж, калі даведаліся, што я евангелік, дзіваваліся вельмі, як
мяне смеў князь канонік на абед свой зваць. А калі ім ён выклаў, што ў нас з
таго жадная нянавісць не бывае і мілуемся як з добрымі прыяцелямі, хвалілі то
ўлохі, мовячы “тут Бог жыве”, а ганілі свае дамовыя правы а родныя няснаскі*.
О Бог бы то даў, каб і зараз ласкаўшыя вякі наступіць маглі…

## Якога мяне стварыў, такога мяне маеш

Паў шляхціч ля ступ* алтара і мыслячы, што яго ніхто не чуе, пачаў тымі словамі малітву сваю:

– Пане! вось я слуга твой, а да таго яшчэ шляхціч.

А хтосьці, за алтаром у той час стоячы, мовіць:

– Хоць шляхціч, але дурань!

Тады шляхціч, мыслячы, што то сам Пан Бог прамовіў, кажа:

– Пане, якога мяне стварыў, такога мяне маеш!

## Як шкадліва рэч ёсць маладым даванне грошай і злая вольнасць

Быў адзін чалавек значны, той меў чатыры сыны асаблівае ўроды і да ўсяго добрага сплодных*. З тых найстаршы, бояззю і міласцю божаю запалены, уступіў да манастыра. Айцец, глупаю жаласцю зранены, баючыся, каб за братам старэйшым і другія сыны не пайшлі, радзіўся ў прыяцеля аднаго, што бы таму радзіў.

А ён адпавёў: “Пагамуй* таго неразумнага фрасунку*. Сыны твае да службы Хрыстовай спяшаюцца, бо ты ім адцінаеш да распусты патужную міністрыню* – вольнасць, бо ім заказуеш бясед*, бо ім бароніш мець грошай – якія ёсць вельмі шырокія вароты да ўсялякай свабоды. Але каб тыя, аб каторых цяпер баішся, каб да манастыра не пайшлі, слухай жа рады маёй: дай ім дастатак грошай, дай ім вольнасць, няхай ідуць, дзе хочуць, няхай з младзенцамі* і з белымі галовамі таварыства возьмуць, абачыш, што снадна* дойдзеш, чаго хочаш”.

Учыніў ён так, як параду ўзяў, і зараз адмяніліся сыны ў абычаях і ў паводзінах. Так, што старэйшы ў дому айцоўскім служэбніцы бярэмя набавіў* і вельмі айца засмуціў.

# Як адна ўдава сваімі фортэлямі трох младзенцаў абшукала

Ў адным горадзе слаўным быў мяшчанін можны купец. Той меў трох дзевак, дзвюх жа хутка аддаў замуж, а трэцяя доўга рутку сеяла*, бо груба была на твары. У тым жа горадзе быў купец вельмі можны, каторы, заўдавеўшы, мысліў сабе: “Калі вазьму ўдаву, будзе мне ва ўсім спрэчная, а таму вазьму тую дзеўку, а яна будзе ў паслушанне мне”. І так узяў сабе тую шпэтную* дзеўку за жонку. У тым, пажыўшы колькі гадоў у спакоі, відзячы сябе быць хворым, усё, што за жывата меў, легаваў* жонцы сваёй у тэстамэнце пры людзях, і сам скора памёр.



Тады па смерці мужа свайго тая ўдава жыла прыстойна, усімі добрамі валодаючы. А ў тым пачалі на тую ўдаву заляцаці тры младзенцы: адзін студэнт, другі служалец, трэці мяшчанскі сын. А так сабе чаргою да яе хожывалі з музыкамі і напіткамі, а ўсе тры намаўлялі яе, каб замуж пайшла была. Але ж адзін аб другім не зналі. Суседзі ж, жыючые паблізу тое ўдавы, пачалі наракаць на ўдаву, мовячы: “За тваімі залётнікамі спаць не можам. Пэўна, альбо замуж ідзі, альбо ім адкажы, каб мы больш таго гоману не слухалі”.

Тады тая ўдава пайшла радзіціся ў людзей, што бы мела з тым пачаці. Тады адна зацная жанчына мовіла ёй:

“Ведай, добрая пані, што! Што чыніш, помні. Калі была дзеўкаю ўбогаю, ніхто аб цябе не стараўся. Цяпер жа не аб цябе ім ідзе, але аб маёмасці тваёй. Таму раджу табе, каб ніводнага з тых трох не брала сабе за мужа, але распраў іх такім спосабам. Кажы прыйсці першаму ў ноч першае гадзіны, а калі будзеш мець з ім размову аб жаніцьбе, адкажы яму такімі словамі: “Ведай, мілы пане, што я ўдава, а маю досыць усяго дабра, пазасталага мне па мужу маім. Ты ж, ведаю, не аб мяне табе ідзе, але аб маёй маёмасці, а таму, калі хочаш мяне сабе мець за жонку, прашу цябе, ночы гэтай учыні волю маю такую: вось мой сусед сёння памёр, а стаіць на марах* нехаваны; а ты пайдзі і, выняўшы таго мёртвага з дамавіны, аднясі, пакладзі папу пад дзверы, а сам пакладзіся ў дамавіне той і ляжы, пакуль не зазвоняць на утрэню; таго часу я к табе прыйду а возьму цябе сабе за мужа”. Тады тым спосабам дасведчыш яго прыязнь. Потым другому кажы прыйці аб чацвёртай гадзіне і скажы яму гэтаксама, як і першаму, што не аб мяне, кажы, табе ідзе, але аб маёмасці маёй; таму прашу цябе, калі хочаш мне быць мужам верным – учыні ночы гэтай волю маю: вазьмі гэтую белую сукню і свячу, а пайдзі да царквы; там стаіць на марах нехаваны мой прыяцель; а ты, прыйшоўшы, стань у яго ў галавах, а стой з той свячою, пакуль не зазвоняць да утрэні; тады я прыйду да цябе і за мужа сабе вазьму. А потым з трэцім умоўся, каб аб дзявятай гадзіне прыйшоў да цябе і таксама, калі будзеш з ім размаўляці аб злучэнні малжэнства*, і таму тым жа спосабам адкажы, што табе не ідзе аб мяне, як аб маёмасці маёй, а таму, пакажы сваю вернасць проці мяне: ночы гэтай вазьмі гэтую чорную сукню на сабе і гэты жалезны крук, а пайдзі да царквы, там стаіць на марах мёртвы мой прыяцель; ты ж, прыйшоўшы, стань у галавах яго, а стой, пакуль зазвоняць на утрэню, тады прыйду к табе і вазьму цябе за мужа, і будзеш панам маім”.

Так пані вельмі рада была той парадзе і так усё справавала так. Тыя пахолкі бедныя, не знаючы зрады, і пайшлі адзін па другім. Першы, калі прыйшоў да той пані з музыкамі, у тым нямнога па размовах стаўся пан малады дапраўляці сябе*, і яна выклала яму ўсё. Ён, верны таварыш, падняўся тое ўчыніці. І так, прыйшоўшы, з вялікаю працаю мёртвага выняў з дамавіны і, на плечах прынесшы, папу пад дзверы паклаў, і сам, легшы, зверха дошкаю прыкрыўся. Яна ж вельмі глупству яго дзівавалася.

Калі ж другі прыйшоў аб умоўнай гадзіне к той пані, яна і таму, паводле парады, таксама што хацела мовіла. Падняўся і той таксама такую рэч споўніці. Але калі блізка прыходзіў з паходнаю свячою, той першы ў шчыліну абачыў свячу і вельмі злякаўся, але так разумеў, што ангел сцерагчы ідзе таго чалавека мёртвага, а зла не ўчыніць яму, і, дрыжачы, ляжаў.

Потым трэці прыйшоў паводле ўмоўнай гадзіны. І так, па розных мовах і жартах, стаўся ён пані дапраўляць сваю даходу*. Тады пані мовіла тое ж, што першым. Потым мовіла: “Пане мілы! Калі мяне хочаш мець за жонку, паслухай жа мяне гэтай ночы, а я, тваю вернасць пазнаўшы, палюблю табе быці жонкаю. Вазьмі на сабе чорную сукню і крук жалезны, а ідзі да царквы, ёсць там на марах мёртвы мой прыяцель. Ты ж там у галавах стань, а стой, пакуль пазвоняць на утрэню”.

Тады і той падняўся на тое. Але калі той, што стаяў з свячою, абачыў яго, вельмі стрывожыўся. А той жа, маючы добры крук жалезны, ішоў, бяспечна пагражуючыся. Калі зблізыўся, абачыў яго той з дамавіны дзіркаю і дужа злякаўся, бо даўнімаў, што то д’ябал ідзе па таго мёртвага, здзервянеў, лежачы. Але той з свячою яшчэ горш злякаўся, кінуў чорту свячу ў вочы і скочыў уцекі. Тады той, што ў дамавіне быў, ударыў нагамі і рукамі дошку, і сам, вырваўшыся, бег сам не знаючы куды. А так усе разбегліся, бо не знаў адзін другога.

Поп жа, пачуўшы туртус*, хацеў выйсці на двор, але калі мёртвага чалавека абачыў, вельмі быў перастрашаны, фэбраю* заражаны. Тады тая вестка па ўсім свеце грухнула*, а младзенцы з стыду прэч раз’ездзіліся. Так жаноцкая хітрасць упісана ёсць.

## Пра бабу, якая ехала да неба

Адна баба шпітальная на Ушэсце заснула ў касцёле. Усе выйшлі, касцёл зачынілі, ноч надышла, а баба спала. Уночы злодзеі прыйшлі касцёл абкрадаць: праз акно ўпусцілі ў кашу колькі сваіх, якія разышліся па касцёле, збіраючы багацці.

У тым баба прабудзілася: бачыць яснасць, бачыць злодзеяў, асвятлёных ліхтаркамі, і кош на шнуру. Думае тады, што то ангелы прыйшлі яе да неба забіраць. Пачала тады маліцца: “Праз Тваё, Пане, у неба Ушэсце...”, і села ў кош. Злодзеі за касцёлам, пачуўшы, што кош тарганўўся, пацягнулі бабу дагары. А калі ўжо да акна прыцягнулі, убачылі бабу, злякаліся, пусцілі кош ды паўцякалі. Баба ўпала зверху і забілася.

Назаўтры, калі адчынілі касцёл, знайшлі і палапалі* злодзеяў, бабу пахавалі: аб яе сконе даведаліся ад злапаных злодзеяў.

## Удзячная гаспода

Што ўбогія маюць быці да дамоў прыймаваны, зацнай адной белай галаве на імя Таццяне такім цудам было паказана.

Калі шляхетны пан, муж яе, ад'ехаў у дарогу, на каторай праз нямалы час задзяржаціся меў, жадаючы ў яе адзін трудаваты* гасподы*, прыняты быў. А ён, калі фрасаваўся* і слабасць сваю выкладаў, жадаў якога добрага і мяккага ложа. Зацная пані, жаднага ложа не маючы лепшага, як мужа свайго, зараз яго на тым ложку паклала.

Аж без весткі неспадзявана пан вярнуўся і хацеў ісці на пакой, пані ж адвалакала, забаўляючы яго чым іншым. Так ён пачаў дамышляцца, што падобна хтось там ёсць. І так, ударыўшы ў дзверы, атварыў. І, узімку, рожамі вельмі пахнучымі ўсю ложу сваю накладзену знайшоў.

Задзівіўшыся тады, пытае, што то ёсць. А жонка яму ўсё паведала. І так абліліся абое слязамі, плачучы, хвалілі Сатварыцеля свету.

## Багацей і суддзя

Пішуць у гісторыях, што адзін лакамы* багацей згубіў з грошмі мяшок і што прудшэй* кажа абвясціць тую сваю згубу, абяцуючы нагароду. І вось, чалавек подлай кандыцыі*, знайшоўшы мяшок, аддае таму багацею, каторы, пералічыўшы грошы, калі ў іх дуката* не хапала, пачне таго беднага чалавека турбаваці і да права пацягаці, каб яму дуката вярнуў.

Ён жа суддзі справуецца, што, як тыя грошы з мяшком знайшоў, так іх бынамней* не рушаў, але проста да багацея на тую абвестку бег. Суддзя, уважаючы таго лакамага багацея хцівасць і няўдзячнасць, такі чыніць дэкрэт: дзеля таго, што няўдзячны багацей станоўча цвердзіў, што ў яго мяшку было дукатаў трыста, а тут толькі дзвесці дзевяноста дзевяць знайшліся з мяшком, тады яўны давод, што то не яго былі грошы, але іншага чалавека, да каторай згубы іншы пан не прызнаўся. Тады тую суму таму чалавеку, каторы яе знайшоў, і каторую яму сама фартуна на помач яго ўбоству і ўпасажанне яго дочак прынесла, суд справядлівы прысуджае.

# Як некаторы страшлівым спосабам ад п’янства быў адведзен

Быў адзін суддзя п’яніца вельмі зласлівы, каторы меў жонку вельмі набожную. Той у дзень і ў ноч піў, жывучы так вельмі небяспечна. Жонка ж за яго Госпада Бога прасіла, каб яго ад таго п’янства адвараціла, ялмужны* давала, горача малілася.

Трапілася адное ночы, калі той п’яны варочаўся дадому, ішоў праз цвінтар, ногу аб камень абразіў і з нецярплівасці пачаў на Бога і на Прасвятую Багародзіцу лаяць. Паступіўшы троха далей на дрэва, галлёю ўдарыўся і яшчэ галасней пачаў на Бога і на яго Мацер блюзніці. І зараз указаўся яму нехта вобразам якога чалавека ўмерлага, стоячы перад ім у акрутнай і страшлівай постаці, у целе поўна вужоў, жаб і іншага гадства маючы. Абачыўшы так страшлівае відзенне*, той, перастрашаны, мовіў: “Хто ты ёсць?” А ён: “Што я, то і ты будзеш”. А той у сваім п’янстве мовіў бяспечна: “Пайдзі са мною, прашу цябе, на вячэру”. Той адпавёў: “Ідзі, а я пайду за табою”.

Калі прыйшоў дадому, мовіў жонцы а чэлядзі сваёй: “Калі я кагось запрасіў, не маеце яго пушчаці”. І казаў пільна дом замкнуці. А калі сядзеў у столу, у дзверы закалатаў* запрошаны, але яго не хацелі ўпусціці. Ён зноў так закалатаў, аж увесь дом здрыгануў. І адчыніўшы дзверы, у сваёй страшнай паставе* ўвайшоў, мовячы: “Прасіў мяне, вось я прыйшоў, асёж* буду есці з табою”. Для баязні тады ўсе паўцякалі: ён сам толькі з госцем застаўся. І мовіў госць: “Ты мяне запрасіў на вячэру тваю, а я тэж цябе прашу на вячэру сваю: трэцяга дня прыйдзеш а той гадзіне”. І знік.

Назаўтры хваробай і бояззю зняты, той суддзя ўсіх грахоў сваіх выспаведаўся. Калі тады прыйшла гадзіна назначаная, парваны быў з целам і з душою і прыведзены на месцы пякельныя, дзе яму паказана ўсе спосабы мук п’яніц і пражораў. Мовіў тады той умерлы: “Судзі аб абедзе і вячэры маёй. Еш цяпер са мною вужы, пі серку, смалу і агонь”. Ён ад страху такіх мук стаўся як мёртвы. І адправажаны быў зноў на месцы, адкуль быў узяты. І паказаўся, што быў сівы, і згрубелы, і як умерлы. То потым ніколі не рассмяяўся, але заўжды плакаў, і вельмі сціслы жывот на сябе прыняў, і сапраўды палепшыўся.

Дай жа то Госпадзе Божа, каб так усім п’яніцам трапілася, каб палепшыліся і пакутавалі.

# Споведзь пана

Так год таму каля Горадні адзін багаты пан улюбіўся ў маладзіцу і яны там заграшылі. Потым адумаўся той пан і кажа да сябе: “Няма рады, трэба ісці да святога Рыму і выспаведацца”. Так і зрабіў.



Ідзе ён так, ідзе, аж у цёмным лесе заступаюць яго разбойнікі. Адзін кажа: “Куды ідзеш?” – “Да Рыму!” – “Чаго?” – Так і так. Так той кажа “пусціць”, другі кажа “забіць!”, а трэці кажа: "Стойце, браткі, ён такую адно рэч зрабіў і ідзе да Рыму, а я ж столькі людзей перавёў?! Пайду ж і я разам з ім”. Тады разбойнікі завялі яго да сваёй зямлянкі, пераначаваў ён там, а на заўтрашні дзень набралі ўсяго ўсялякага з сабою дый пайшлі да Рыму.

Прыходзяць туды, выспаведаліся, так ксёндз кажа: “Ідзеце да касцёла, адзін стане па правай старане, а другі па левай алтара і ўглядайцеся”. Увайшлі яны там і стаяць, ажно по неякімсь часе пан пытае ў разбойніка: “Ці ты стаіш на зямлі?” – “Стаю, – кажа, – а ты?” – “Я, – кажа пан, – па костачкі ўпаў”.

Паждаўшы крыху, зноў пан пытае. “Стаю, – кажа разбойнік, – а ты?” – “Я па калені ўпаў і няма як вырабіцца”. Пасля пан упаў па рукі, а разбойнік як стаў, так стаіць. Пасля пан зусім пад зямлю ўпаў, а разбойнік стаіць.

Ажно ўходзіць ксёндз у касцёл: “Ну, ты, – кажа, – астаўся шчаслівы, ідзі сабе з Богам і не грашы больш, а ён пракляты астаўся”.

# Што князю Радзівілу Езус сказаў

Год 1781-ы быў памятны для Наваградка: тады адбыўся вельмі пышны соймік, больш за чатыры тысячы нас, шляхты, з’ехаліся на выбары земскага пісара. Па смерці пана Мартына Данэйкі Віленскі князь-ваявода* прапанаваў на пасаду пісара Міхала Рэйтана. Князь-ваявода паводле свайго
1781 звычаю прыехаў на соймік, пагатоў што жадаў падтрымаць Міхала Рэйтана, які быў адданы Радзівілам душой і целам. Князь на трыццаці вазах прыехаў да кляштара бернардынаў, у якім быў сіндыкам*, і цалкам сваім дваром яго заняў.

Па абедзе ўсе пайшлі на дзядзінец да бернардынаў, дзе, хаця добра былі п’яныя, зноў пілі. Там ужо была мешань: яснавяльможная і аколічная шляхта, магнаты і засцянкі* былі брат за брат. Князь, напаткаўшы якогась шляхціча з абдзёртай шапкай, зняў яе, надзеў сабе на галаву, а яму даў сваю аксамітную. На той узор мы ўсе пачалі мяняць сабе шапкі і піць, але так, што штохвіліну насілі новую шапку.



Потым князь, добра п’яны, пачаў распранацца і свае рэчы – залаты пас, кунтуш, брылянтавую шпонку, жупан – дарыў шляхце. Застаўся ў адных амарантавых* гайдавэрах* і ў кашулі, на якой вісеў вялізны шкаплер*.

І так сеў на возе, на якім была вялізная бочка, поўная віна. Ён сядзеў на бочцы, а воз шляхта цягала па вуліцах Наваградка. Праз колькі крокаў воз спыняўся, і хто жадаў ставіў келіх або кубак, а князь адтыкаў корак ад бочкі і наліваў, просячы шляхту, каб дала яму ўтрымаць Міхала Рэйтана на пісарстве а не даць Радзівіла на страву яго непрыяцелям.

– Пане каханку, – мовіў князь, – бачыце гэты мой шкаплер? Ён такі вялікі, бо ў ім зашыта унія Літвы з Каронай. Я люблю Карону, пане каханку, але няма такой, як наша Літва. Я і ў Кароне маю кавалак зямлі, але там няхай сядзіць д'ябал. Там лягчэй знайсці кушнера, ніж паляўнічага. Мы тут б'ём мядзведзяў, а яны там з раз'ездам* палююць на перапёлак. У кароняжаў суслы – то буйны звер.

І, панове, як пачаў мяне ўціскаць князь біскуп Віленскі*, швагер пана ваяводы Наваградскага, што тут дапіраецца на нас, каб не пан Міхал Рэйтан, але пан Казімір Гарабурда дэкрэты нам пісаў, то я ўжо з роспачы хацеў ехаць у Карону. Асеў ужо быў на Русі, але калі пачаў маліцца Пану Езусу ў Барэмлю*, Ён мне мовіў: "Радзівіле, вяртайся ў Літву, бо тут ты нічога не дапнеш, тут шляхта смярдзючая. Ostende patrem patris* – гэткая вялікая філасофія ў шляхты валынскай і кіеўскай, не так, як у нас у Літве, што ад продкаў кожны сядзіць на сваёй зямлі (бо мая прабабка была літвінка). Вяртайся тады ў Літву і кланяйся наваградскай шляхце ад мяне".

А я Яму на тое, паўшы крыжам на зямлю: "Пане! А як я вярнуся ў Літву, калі мяне Твой біскуп уціскае?" А Ён мне: "То не мой біскуп, то гультай, але ён проці цябе нічога не дакажа. Вяртайся, Радзівіле, у Літву, і няхай мяне д'яблы парвуць, калі ты не будзеш там Радзівілам па-даўняму, а ён як быў кепам*, так і будзе кепам". Вось, пане каханку, я, асмелены такім прырачэннем Пана і Бога майго, да вас вярнуўся, і Пан мой узнагародзіў маю веру, бо я ніколі не сумняваўся ў дадзеным Ім слове.

І тут шляхта як пачала цiснуцца да нас, ды не толькі наша, але і з супрацiўнай партыі, нават засцянкі, так што можна было бачыць, што назаўтра ніхто не выступіць проці нас. Да дзясятай гадзіны ночы мы разам з князем пілі, танцавалі і спявалі на вуліцах.

## Мужык і Радзівіл

Ехаў мужык дый надта меў нос вялікі, а напроці яго ехаў Радзівіл, а хоць дарога была абшырна, але Радзівіл хацеў назбыткаваць* з мужыка дый крычыць на яго: “Гэй, на бок з доўгім носам!” Тады мужык пальцам адхіліў нос на бок дый кажа: “Проша пана ехаць!” Радзівіл паглядзеў, што мужык не дурань, так даў яму жменю грошай дый, змыліўшы сам з дарогі, паехаў. От і мужык у цемя не біты!

## Як Радзівіл мужыка розуму навучыў

Вёз чалавек сена і вывернуўся, аж едзе Радзівіл, так казаў слугам падняць воза дый кажа:

– А што, чалавечку, добра ў кампані кашу есці?

– А, – кажа, – паночку, я кашу то і сам з’еў бы без кампані.

– Ну, калі кашу ты сам з’еў бы, то і воза сам паднімай! Хлопцы, выварочвайце зноў!

Тыя як бач* вывернулі, Радзівіл паехаў сабе, а ты спраўляйся, як хочаш.

## Селянін на судзе

Ішла пані ў багатай сукні, а чалавек, збоку ідучы, наступіў, што аж трэснула. Тая ж то пані падала яго на суд. Так суддзя асудзіў заплаціць за сукню сорак пяць рублёў і сукню каб чалавек сабе забраў.

Так той чалавек кажа: “Я не маю часу больш па судах цягацца”. І то, выняўшы сорак пяць рублёў: “На, – кажа, – пані, грошы, скідай спадніцу!” Так то пані заўстыдалася скідаць спадніцу пры людзях і пайшла. Толькі яны яе і відзелі.

# Разумная дзяўчына

Ішоў чалавек дарогай, а каля дарогі дзеўка слала лён, ды такая прыгожая.

– Бог помач! Дзень добры! – гаворыць ён.

– Дзякую! – адказвае яна.

А дзень тады быў такі харошы.

– Дзень харошы, дый лён харошы, а дзеўка яшчэ прыгажэй, – гаворыць зноў чалавек.

А яна яму і адказвае:

– Хвалі дзень вечарам, лён вычасам, а дзеўку замужам.

Вось якая разумная дзяўчына!

# Ксёндз і закрыст'ян

Ядзін ксёндз, змовіўшыся з закрыст'янам*, такі хфігель устройвалі: як ксёндз пойдзе на казань, так як стане гэтыя словы вымаўляць: "Сыдзі, Духу Святы, напоўні сэрцы верных!" – так то закрыст'ян упусціць голуба праз дзіру з гары, а голуб гэта зараз на казальніцу (бо ксёндз яму заўсёды пасыпаў там гароху), а людзі, думаючы, што гэта праўдзівы Дух Святы, як паднімуць жаль, плач, то не жарты!

Так раз ксёндз то падняў да неба рукі дай зноў кажа: "Сыдзі, Духу Святы!", ажно закрыст'ян высадзіў галаву праз дзіру дай кажа: "Няма, ксёнжа-дабрадзею: кошка галаву ад'ела!" От так і выйшла наверх!

## Як Бог адбярэ, то і людзі добрым не спамогуць

Быў сабе адзін пан і меў ён поўну вольху* грошай. А быў ён надта цяжкі на людзі, так Бог наслаў буру і яна занесла гэту вольху з грашыма на балота беднага гаспадара. Таго самага дня спаліў яшчэ пярун і яго цэлы двор. Ён, няма рады, узяў торбу дый пайшоў жабраваць.

Заходзіць да таго гаспадара нанач, а той пытае: "Скуль вы, дзедку?" – "Стуль і стуль, – кажа, – я даўней панам быў, але так і так сталася, і я цяпер мушу жабраваць". Так той гаспадар і здагадаўся, чые гэта грошы мае. А жонка яго якраз хлеб садзіла, так кажа на яе: "Вазьмі ты хутчэй зрабі бохана з дзіраю, насып у сярэдзіну золата дый заляпі". Яна гэтак і зрабіла. Пасля выняла з печы і дала таму пану. Але Бог іначай хацеў. Узяў ён той бахончык і прадаў.

Пасля зноў ён прыходзіць да таго мужыка. Так той думае сабе: "Што гэта такое? Няўжо ж ён той бахончык згубіў? Такі ж не жабраваў бы, каб меў тыя грошы!" – і пытае: "Куды цяпер пан ісцімя?" – "А, – кажа, – праз гэту рэчку перайду і пайду далей". Той, гэта пачуўшы, да каморы, мяшок золата на плечы і паклаў на той кладцы ўпоперак, і сам за кустом сеў.

Было ўжо цемнавата, асёж той пан прыйшоў да кладкі, заплюшчыў вочы дый кажа: "Як гэта сляпы праз кладку ішоў бы?" Ідзе, ідзе, ідзе – дайшоў да таго меха, стукнуў кіем дый кажа: "Ля, якая калода – здаецца, яе не было". І гэта пераступіўшы, пайшоў. Тады той здагадаўся, што ён вельмі грэшны, калі Бог яму так дае.

## Як вялікі грэшнік збаўлены застаўся

Адзін дзяцюк пасварыўся з бацькам, так са злосці ўхапіў нажа да то саўгець! бацьку ў грудзі і забіў. Тады маці калі парве таго самага нажа, так чыста яму трыбух распарола. Ён, з гарачкі недзе заляцеўшы, пераляжаў там дый, як трыбух зросся, так павандраваў у іншую зямлю да аднаго пана на службу.

Мінула колькі часу, яго маці, не меўшы што есці, павандравала таксама ў свет, і трэба ж так здарыцца – пагадзілася да таго самага пана, дзе і той яе сын служыў. Ні яна сына не пазнала, ні сын яе. Пабыўшы якісь час, закахаліся ў сабе і, не ждучы, пажаніліся.

Аднаго разу спяць яны, ажно маці глядзіць – у яго шнар на трыбусе, так пытае: “Ля, а гэта што?” – “Гэта, – кажа, – я бацька свайго забіў, а маці, зазлаваўшы, разрэзала мне трыбух”. – “А то ж гэта я твая маці!” – дай чыста аталапянела. Тады ён, баючыся, каб яна яго не выдала, узяў зарэзаў яе і тое саменькае ночы ўцёк.

Бяжыць ён лесам, так бяжыць, адно ж бачыць, сядзіць пад дрэвам пустэльнічак дай пытае: “Куды ты бяжыш?” – “Бягу, – кажа, – шукаць пакуты”. – “За што?” – “Забіў свайго бацька, з мацераю шлюбаваў і мацеру забіў”. – “Ну то я табе за гэта пакуты не магу назначыць: каб ты адно бацька забіў, то яшчэ, але і то трудна, а то і мацеру. Ля!” Так яго злосць парвала, трэсь па пустэльнічку і забіў.

Бяжыць далей, адно ж сядзіць і другі пустэльнічак дай пытае: “Куды ты бяжыш?” – Так і так. – “Ну, – кажа, – каб ты адно бацька і мацеру, а то яшчэ і пустэльнічка забіў. Цяпер ужо для цябе няма пакуты на гэтым свеце – за ўсё ўжо на тым адпакутуеш”. Так ён трах! булавешкаю – і гэтага забіў.

Бяжыць далей, адно ж сядзіць пустэльнічак такі сівюсенькі і пытае: “Куды бяжыш?” – Там і там, так і так. – “Ну добра, – кажа, – я табе пакуту назначу”. Ды гэта кажучы, узяў кавалак галіны сухой, уваткнуў у зямлю дый кажа: “Насі з Віслы ваду губою дый палівай датуль, пакуль гэта яблынька не расцвіце”. – “Добра, дзякуй вам!”, і пабег да Віслы па ваду.

Прынёс раз, другі – адно пачала зелянець, нясе трэці, глядзіць, едзе нехта. А гэта быў кароль-чараўнік, што людзей еў. Угледзеўшы то яго, пытае: “А куды ты бяжыш?” Так ён, ваду выплюнуўшы, кажа: “Мне пустэльнічак назначыў пакуту, каб я з Віслы ваду насіў губою, то й нашу”. – “А за што?” – Так і так. – “Ат, – кажа, – дурны ты! Я з адной зямлі ўсе людзі з’еў і гэта еду да другой, жаднае пакуты не знаючы, а ты будзеш за такое глупства пакутаваць – тфу! А ведаеш ты, якое гэта смачнае – людскае цела, то не жарты!” А ён, калі парве булавешку – трэсь! каралю па лбе і забіў.

Так то як бач: той фурман, коні, усё, паперакідаліся ў галубкі і паляцелі да неба. Тады ён пабег па ваду, прыносіць, адно ж яблынька расцвіла, так як бач умёр, а душа да неба пайшла. А тыя коні ў караля, гэта былі людзі ў коні паперакіданы.

# Чаму мужык старшы над жонкаю

Была ў аднаго жонка вельмі ліхая: бывала, прыйдзе з карчмы, запіўшыся, гракане ў дзверы: “адчыні!” Ён, небарака, мусіць уставаць да і барздзей* адчыняць. А як часам няхутка прачхнецца, так яна зараз за качаргу і чыста яго заб’е. А ў тым часе хадзіў Пётр з Панам Езусам глядзець, ці ўсё на свеце добра дзеецца. Так Пан Езус пытае ў яго: “Што ты хочаш, каб хто быў вышшы – ці мужык, ці жонка?” Так Пётр давай прасіць, каб жонка. Так Пан Езус кажа: “Добра, зайдзем да гэтай хаткі нанач”. А ў гэтай хатцы жыла тая баба ліхая з сваім мужыком.

Прыйшлі яны і просяцца: “Чалавеча, прымі на нач”. – “Чаму, – кажа, – прыняў бы б, але мая баба вельмі ліхая, прыйдзе з карчмы, запіўшыся, то яна і мне, і вам надасць”. – “Не бойся, – кажуць, – не будзе зачапаць”. – “Добра!”

Той з найбольшаю ахвотаю прынёс саломы, паслаў ім харашэнька, яны пакламіся.

Адно ж – грак! грак! у дзверы: “адчыні!” Ён гэта схапіўся з пасцелі да на пальчыках пабег, адсунуў адныя дзверы, другія, яна ўвайшла да і давай крычаць: “А ты халера: я буду мерзнуці на двары, а ты тут спіш?!” Да за качаргу, ён у кроч. Нарэшце глядзіць – нештась на зямлі спіць: “Хто гэта, – кажа, – такі?” – “А гэта, – такая і гэтакая, – дзядкі старэнькія прыйшлі і прасіціся на нач”. – “Аа, то ты дзядкоў туда, – кажа, – назводзіў? Я ж табе дам!” Да калі возьме яго акладаць качаргою! А после: "Аа я і тваім дзядкам дам!” Да як Пётр з краю ляжаў, так па ім хоп! да хоп! После: “Пастой, я і таму дам!” – і хацела Пана Езуса ўдарыць, але Пётр перакаціўся праз Пана Езуса, так яна зноў па Пётры. Ударыла разы з дзесяць, а Пан Езус сабе спіць. Так баба кажа: “Яшчэ таму мала!” – а Пётр зноў шлык! на сваё месца, так баба зноў па ім. Узяла мужа прагнала, сама лягла.

Назаўтра рана яны пайшлі, так Пан Езус пытае: “Што хочаш, каб было вышэйша, – ці мужчына, ці баба?” Так Пётр давай прасіць, каб мужчына, і гэтак сталася.

## Чаму людзі з таго свету не прыходзяць

Нядаўна яшчэ ў адной вёсцы каля Вільні жыло двух суседзяў з сабою вельмі пекна і згодна. Трапілася, з іх адзін моцна захварэў, так другі просіць яго: "Калі, суседачку, умрэш, то помні ў той а ў той дзень у вечар прыйдзі з таго свету на тое а на тое месца расказаць мне, што там дзеіцца на тым свеце".

Незадаўго той хворы ўмёр, аж у той дзень, што яны ўмовіліся, той, што жывы быў, пайшоў на тое месца і чакае. Аж незабаўным часам відзіць: вялікі куль агню спушчаецца з неба і становіцца каля яго, а з агню выходзіць той нябожчык і кажа яму: "Відзіш, як нам цяжка з таго свету прыходзіць, бо іначай не пушчаюць, як толькі ў агню прыйсці і з агнём пайсці. А што робіцца на тым свеце, то нам не вольна расказаць. Скажы, суседачку, усім сваім дзецям і знаёмым, каб такіх умоваў ніколі не рабілі".

## Чаму зязюля кувае адно да Пятрова дня

Ішоў Пан Езус з апосталамі жвірыстаю дарогаю, а апостал Пётр намуляў сабе ногі і не мог паспець за іншымі. Убачыў ён каня, прывязанага пры дарозе, адчапіў, сеў на яго ды даехаў да месца адпачынку. Пан Езус яго спытаў, адкуль ён узяў каня. Пётр схлусіў, што купіў. А Пан Езус запатрабаваў сведкаў.

Заклікалі ў сведкі зязюлю ды варону, што тут жа ляцелі, бо ім згары ўсё відаць. На пытанне Езуса, ці праўда, што Пётр купіў таго каня, зязюля адказала: "ку-піў, ку-піў, ку-піў". А варона закракала: "краў! краў! краў!". І ад таго часу, на загад Пана Езуса, зязюля можа куваць адно да Пятрова дня, а варона можа кракаць праз цэлы год.

## Чаму мазуры шапталюць

Скуль гэта мазуры ўзяліся? От скуль:

На пачатку свету быў адзін чалавек, а такі лядашчы і зухвалы, што нікому з дарогі не ўступіў. Аднаго разу ўлез у дарогу чорту і давай з ім біцца, а чорт яму калі не смальне ў морду, так і пасыпаліся зубы. Ад таго часу стаў ён шапятаць і ад яго пайшоў цэлы такі род, бо дзеткі пераняли яго мову.

## Чаму субакі не любяць кошак

Жылі разам субакі і кошка. Паехалі субакі ў Вільню на суд, а свае шляхецкія паперы аддалі пахаваць кошцы:

– Кошачка, ты застаесся ў доме гаспадыняй, пахавай нашы паперы!

– Добра, – кажа кошка, – схаваю!

Субакі ад'ехалі, а кошка стала пераглядаць паперы. Відзіць – зусім яны сырыя, ажно заплеснелі. Яна і паклала іх перасушыць на комін. Дзе ўзяліся мышы – пагрызлі тыя паперы. Прыехалі субакі з Вільні – няма папер: прапалі шляхецкія правы!

З тых сама пор субакі не любяць кошак, а кошкі мышэй.



# Як мужык чорта абшукаў

Ядзін бедны мужык пазычыў у чорта мяшок золота, так чорт пытае:

– А калі ж ты мне аддасі!

– Тады, – кажа, – як будуць свінні ступою ісці з поля.

Чорт кажа: “Добра”.

Стаіць ён адзін год пры варотах, другі, трэці, дзясяты: усё свінні бягуць! Чорт ужо на трэску высах і кажа да таго чалавека: “А няхай цябе так і гэтак! Дарую табе і золата, і ўсё”. Гэта кажучы, пайшоў! Толькі яго той чалавек і ўгледзеў.

# Як чэрці схапілі хлопца

Ў аднаго гаспадара служыў парабак. Выбыўшы рок*, меўся ўжо адходзіць, так гаспадар кажа: “Бог заплаць табе, што ты служыў пільна, бо я не маю чым табе заплаціць, хіба добрым словам”.

Так хлопец заплакаў дый, выходзячы, кажа сам да сябе: “Каб яго чэрці! Служыў, служыў за “Бог заплаць”!

Ажно пачуў гэта чорт, так стаў перад ім дый кажа:

– Аддай ты мне “Бог заплаць”, то я табе дам грошы.

– Ля! як я аддам?

– Удар па маёй руцэ дый скажы: “Бог заплаць”.

Той так і зрабіў: так чорт зараз гэта яму даў столькі грошай, што ён не панёс.

Хлопец потым адумаўся, што нешта гэта ліхое: “Нашто я, – кажа, – браў гэтыя грошы, мо’ я душу страціў? Пайду я да ксёндза, што ён мне на то скажа?”

Пайшоў, расказаў усё ад мала да веля, так ксёндз яму кажа: “Пастаў ты за гэтыя грошы мост на той трэнсавіцы* дый сядзі пад тым мостам і ўслухайся, адно добра, ці хто з пераездных не скажа: “Бог заплаць таму, хто мост гэты выбудаваў”, то тады будзеш ужо ты збавёны”.

Ён так і зрабіў. Доўга ён там сядзеў, нічога не пачуўшы, нарэшце аднаго дня едзе нейкі чалавек і дзівіцца: “От мост выбудаваў, каб яго, – кажа, – чэрці ўзялі!” Так як бач, у той момант паднялася страшная бура і, як падышла пад мост, так чэрці схапілі таго хлопца і ўкінулі ў ваду. От як чорт падмануў хлопца!

# Як ксёндз за ноту прадаў чорту душу

Ядзін ксёндз не меў добрае ноты*: думае ён сабе, як бы тут зрабіць, каб меў ноту. Так пайшоў на разнастайныя дарогі і прызваў чорта:

– Чаго ты хочаш?

– Не маю ноты і хачу, каб ты зрабіў так, каб нота была.

– Добра, але сваю душу мне запрадасі.

– А добра, – кажа ксёндз.

І зараз гэта з мізінага пальца кроўю падпісаў цароград*, што па трыццаці гадах прыйдзе ў гэта месца, чорт дасць яму атруты, каб умёр, і душу забярэ да пекла. І разышліся. Надышла нядзеля, ксёндз увайшоў да касцёла: калі заспяваў – аж касцёл разлягаецца! Усе не маглі выдзівіцца: скуль ён такую ноту адразу ўзяў?

Як меў ужо надысці той дзень, у каторым сканчаўся тэрмін, ксёндз узяў Прэнайсвенчы Сакрамэнт, закрыст'яна і пайшлі ў тое месца. Так ксёндз укленчыў, памаліўся, прыняў камун'ю, потым лёг на зямлі і кажа да закрыст'яна: "Адатні мне руку адну". Як ён адцяў: "Адатні, – кажа, – другую". Потым ногу адну і другую. Наастатку сказаў, каб аж да яго смерці не адыходзіў. Мучыўся ён небарака аж тры дні, а чорт не мог да яго даступіцца, бо ён сабе сам пакуту залажыў. На трэці дзень Бог улітаваўся, даслаў анёла і ён умёр, а анёл душу да неба забраў.

## Як дзеўцы, што ж ліхі зачапаў

Адна дзеўка жыла надта кепска, аж аднае ночы прыйшло штось, ушчыпнула яе і пайшло. І так штоноч прыходзіла і шчыпала: калі яна агледзіцца, аж сінякі на тым месцы.

Аднае ночы сніцца ёй, каб ішла да касцёла: так яна, устаўшы, узяла ксёнжку* і пайшла. Прыходзіць да касцёла, ксёндз выйшаў на імшу, а з аўтара вылазіць чорт, улажыў неякась адзенне, сеў пад аўтаром і давай запісываць, хто засмяецца, ці агленіцца, ці што.

Аж яна чуе, так як бы за ёю што гаворыць: "Ты не глядзі на яго, але чытай і чытай, пакуль людзі не павыходзяць з касцёла. Калі ты тут не згінеш, а паправішся, то будзеш збавёна". Яна чытае, чытае, цэлу ўжо ксёнжку перачытала, аж людзі зачалі выходзіць, так і яна пайшла.

І зараз яна ходзіць, жабруе і кожнаму расказвае аб гэтым здарэнні.

## Як вісельнік хлопца збавіў

Адзін хлопец любіў надта адну дзяўчыну, так бацька яе даведаўся аб гэтым, а не хацеў, каб яна за яго ішла, так кажа: "пачакай"! Паслаў парабка, бы то ад яе, каб ён прыйшоў тое і тое ночы і праз акно каб улез. Ён сабе выбраўся, едзе, так едзе, пацеры гаворыць, адно ж вісіць вісельнік. Ён пачаў пацеры за яго душу гаварыць, а ён кажа: "Знімі мяне!" Той зняў, а ён: "Ведаю, – кажа, – куды едзеш, Бог мяне паслаў, каб я це выратаваў". Хлопец чыста спалохаўся, а той сеў і паехаў з ім.

Пад'ехалі пад той дом, пазлазілі, так вісельнік кажа: "Пачакай, я першы палезу". – "Добра". Так то як адно ўсадзіў ён галаву, а бацька стаяў прыгатоўлены з мечам дый то чах! і адсек яму галаву. Але таму галава як бач сцэлілася, так кажа да таго хлопца: "Бач, гэта ён це хацеў забіць, ну а цяпер завязі ж мяне на маё месца". Той завёз, прычапіў дый сам дахаты паехаў.

# Баба Халера

Ехаў чалавек дарогаю да мястэчка, наганіў бабу старую, страшну, абдзёрту, худую, толькі скура і косці. Просіцца тая баба:

– Чалавечку, падвязі мяне.

– Э, ты баба халера, я цябе буду везці?!

– Падвязі, падвязі: я табе навіну скажу!

– Но, сядай, баба, падвязу.

Едучы, пытае баба:

– А ведаеш, каго ты вязеш? – я такі баба Халера.

Ён кажа:

– Чом'* ты баба Халера?

– От абачыш, – кажа, – што тут заўтра ў мястэчку будзе!

– А што такое?

– Тут з халеры ўмрэ сорак пяць людзей.

– Няўжо ж гэта праўда?

– От пагленеш!

– А як жа ж я з табою заўтра забачыўся б?

Так яна кажа:

– Там за мястэчкам ёсць развалены муры, прыйдзеш зрання а дзявятай гадзіне, там мяне забачыш.

Прыехаў да мястэчка, яна злезла і дзе пайшла не відзеў. Аж чуе: уначы там такі розрух, лямант, людзі лятаюць, плачуць, ужо некаторыя паўміралі... Но і так шмат паўмірала за ноч.

Рана выйшаў ён на вуліцу, аж гавораць, што шэсцьдзесят душ умерла. Яго цікавасць узяла, ці ёсць тая баба ў мурах. Ідзе туды глядзець. Прыходзіць, шукае, аж у куточку сядзіць баба скурчана! Так ён кажа: “Ах ты, баба Халера, казала, што толькі ўмрэ сорак пяць, а тут умерла шэсцьдзесят!” – “Я, – кажа, – да пятнаццаці нявінна, бо то паўміралі ад страху, а сорак пяць з халеры”.

# Яб чалавеку, што зайшоў да Рыму на каленках

Нядаўна адзін чалавек ахфяраваўся зайсці на каленках да Рыму. Ішоў, ішоў, аж усё цела з кален пазлазіла, адно косці асталіся. Як ужо быў блізка Рыму, так усе званы зазванілі, а папеж з працэс'ею выйшаў спатыкаць збавёну душу, а птушачка ўсё над ім ляціць і кажа: "Цярпі! цярпі! цярпі!" А ён: "Дакуль я маю цярпець, калі ўжо я і так цярплю!" Як ён гэта сказаў, так у тым моманце званы званіць перасталі, птушачка паляцела, а ён невядома дзе згінуў.



# Заўвагі

*Скарочаныя пазнакі крыніц:*


| | |
|---|---|
| Зборнік №107 | Зборнік павучанняў 17-га стагоддзя (зборнік №107, фонд F19 у бібліятэцы Урублеўскіх у Вільні). Пры ўкладанні кнігі былі ўжыты фотакопіі зборніка №107, якія захоўваюцца ў філіяле “Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа” Цэнтра даследванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Апісанне зборніка: Описание рукописей Виленской Публичной библиотеки, церковно-славянских и русских. / сост. Ф. Добрянский. Вильна, 1882. с. 231-241. |
| Кушалеў-Безбародка | Памятники старинной русской литературы, издаваемые Графом Григорием Кушелевым-Безбородко. выпуск 1. Санкт-Петербург, 1860; выпуск 2. Санкт-Петербург, 1860. |
| ПСРЛ | Полное собрание русских летописей |
| Раманаў | Белорусский сборник. вып. 4. Сказки космогонические и культурные. / собр. Е.Р. Романов. Витебск, 1891. |
| Успаміны Сапліцы | H. Rzewuski. Pamiątki starego szlachcica litewskiego. T. I. Warszawa, 1900. |
| Федароўскі | M. Federowski. Lud białoruski na Rusi Litewskiej. t. I. Kraków, 1897; t. II. Kraków, 1902; t. III. Kraków, 1903. |
| Хроніка Быхаўца | ПСРЛ, т. 32. Хроники: Литовская и Жмойтская, и Быховца. Летописи: Баркулабовская, Аверки и Панцырного. Москва, 1975. с. 128-173. |
| Хроніка Літоўская | ПСРЛ, т. 32. Хроники: Литовская и Жмойтская, и Быховца. Летописи: Баркулабовская, Аверки и Панцырного. Москва, 1975. с. 15-127. |
| Шэйн | Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. / собр. П.В. Шейном. т. 2: Сказки, легенды, предания. Санкт-Петербург, 1893. |

## *Прыпавесці і апавяданні княскія*

### Пра князя Даўспронга, як Вількамір заснаваў

З Хронікі Літоўскай (с. 16-18). Даўспронг (або Даўспрунк) быў родным братам першага вялікага князя Літоўскага Міндоўга (згаданы разам з ім у дамове 1219 года). Вількамір упершыню згаданы ў 1225 годзе.

*Свента* – рака, на якой стаіць Вількамір, прытока Віліі
*жадны* – ніякі, ніводны

### Пра вялікага князя Войшалка, ваяра і мніха

Злучэнне аповедаў Хронікі Літоўскай (с. 27-29) і Хронікі Быхаўца (с. 133-134).

*Даніла Раманавіч* – князь Галіцка-Валынскі (1229–1264), у 1253 г. каранаваны як кароль Русі
*Святая Гара* – гара Афон у Грэцыі, дзе месціцца Афонскі манастыр; Войшалк падарожнічаў у Грэцыю між 1255 і 1258 г.
*жывот* – жыццё
*паднесці на панства* – пасадзіць на стальцы гаспадарства
*сястрэнец* – пляменнік па сястры
*зацныя* – шляхетныя, высакародныя
*у законе* – у манаскім паслушэнстве
*клабук* – манаскі галаўны ўбор
*лупества* – рабаванне
*Леў Данілавіч* – князь Галіцкі (1264–1301)
*Баляслаў* – Баляслаў Сарамлівы, князь Кракаўскі (1243–1279)
*зысківаў* – перамагаў

### Аб вялебным князю Канстантыне Карыятавічу

Злучэнне аповедаў Хронікі Быхаўца (с. 139) і Хронікі Літоўскай (с. 45).

Князь Міхайла-Карыят Гедымінавіч княжыў у Наваградку ад 1329 года. Князі Карыятавічы аселі на Падоллі каля 1362 года.

*сыноўцы* – пляменнікі
*ляшскія* – польскія
*глейтоўныя лісты* – лісты на вольны праезд

### Пра вялікага князя Альгерда, як маскве адказ даў

Злучэнне аповедаў Хронікі Літоўскай (с. 60-62) і Хронікі Быхаўца (с. 140). Мова, відаць, пра другі паход вялікага князя Альгерда на Маскву 1370 года.

*Дзмітрый Іванавіч Маскоўскі* – вялікі князь Маскоўскі (1359–1389)
*валечнік* – ваяр
*часу падобнага* – у зручны, спрыяльны час
*непагода* – неспрыяльны час
*жагва* – цэра

### Як князь Вітаўт з Крэўскага замка ўцёк

Злучэнне аповедаў Хронікі Быхаўца (с. 143) і летапіса Рачынскага (ПСРЛ, т. 35. с. 156-157). Гэта адбылося ў жніўні 1382 г.

*пераступіў сваёй праўды* – парушыў сваё абяцанне
*каморнікі* – служкі ў каморы

*княгіня вялікая Вітаўтава* – Ганна Святаслаўна, жонка вялікага князя Вітаўта
*містр* – магістр Тэўтонскага ордэна
*Мар'ін-гарадок* – Мальбарк, сталіца крыжакоў у Прусіі

## Як кароль Ягайла Сафію Гальшанскую сватаў

З Хронікі Быхаўца (с. 149). Ягайла ажаніўся з Сафіяй Гальшанскай у лютым 1422 г.

*сястрычны* – пляменніцы па сястры
*з пакалення рускага* – князі Гальшанскія падчас рэформы 1387 г. прынялі праваслаўе ("рускую" веру)
*Іван Валадзіміравіч Бельскі* – сын князя Валадзіміра Альгердавіча, княжыў на Бельскім княстве на Смаленшчыне
*Андрэй Альгімонтавіч Гальшанскі* – сын князя Івана-Альгімонта Гальшанскага, найбліжшага паплечніка вялікага князя Вітаўта

## Пра вялікага князя Вітаўта, як сойм у Луцку справіў

Скарочаны пераказ паводле Хронікі Быхаўца (с. 151-153). Гэты сойм у Луцку адбыўся ў 1427 годзе.

*Белая Вежа* – Белавежская пушча, даўняе месца паляванняў вялікіх князёў Літоўскіх
*летні* – пажылы, у гадах
*цэсар* – Рымскі цэсар Жыгімонт Люксембург (1410–1437)
*Дунскі* – з Даніі
*паморскія* – з польскага Памор'я
*слёнскія* – з польскай зямлі Слёнск (Сілезія)
*Валаскі* – з Валахіі (частка сённяшняе Румыніі)
*Іаан Палеалог* – Грэцкі цэсар Іаан VIII Палеалог (1425–1448)
*аброкі* – жыўленне, пачостка
*мушкатэлі, малмазіі* – сарты віна
*валка* – вайна
*ва Улохах* – у Італіі

## Як Казіміра на вялікае княжанне пасадзілі

Пераказ паводле Хронікі Быхаўца (с. 156-157), Хронікі Літоўскай (с. 85) і хронікі Яна Длугаша (J. Długosz. Dziejów Polskich ksiąg dwanaście. / przekład K. Mecherzyńskiego. T. 4. Kraków, 1869. s. 607-608).

*Ян Гаштоўт* – да згаданых падзей займаў пасаду намесніка Смаленскага, пасля – ваяводы Троцкага
*аб смерці вялікага князя Жыгімонта* – Жыгімонт быў забіты 20 сакавіка 1440 года
*уборзе* – хутка, спешна
*Мікалай Неміровіч* – каля таго часу займаў пасаду маршалка дворнага
*мітра* – галаўны ўбор біскупа

## Для чаго северскія князі Маскве паддаліся

З Хронікі Літоўскай (с. 95).

*апанаваў Вялікі Ноўгарад* – Масква канчаткова захапіла Вялікі Ноўгарад у 1484 г.

*княжаты северскія* – Северскае княства месцілася вакол Ноўгарада-Северскага і Старадуба
*адзверны* – служка пры дзвярах
*ублаганы* – пагамаваны

### Пра Барбару Радзівіл

З летапіса Рачынскага (ПСРЛ, т. 35. с. 171-172).

*белыя галовы* – жанчыны
*сам-трэць* – толькі з двума спадарожнікамі
*карунныя* – польскія

### Альбейчыкі

Скарочаны пераказ паводле “Успамінаў Сапліцы” (с. 215-228)

*Караль Радзівіл* – Караль Станіслаў Радзівіл “Пане Каханку” (1734–1790)
*астатняя з роду Вішнявецкіх* – княгіня Францішка Уршуля Радзівіл з Вішнявецкіх, аўтарка многіх драматургічных твораў для нясвіжскага тэатра
*да збытку* – надзвычай, надта
*фузыйка, фузыя* – доўгая паляўнічая стрэльба
*стаўшы мечнікам Літоўскім* – Караль Радзівіл стаў мечнікам Літоўскім у 1752 г.; мечнік –ураднік, які на ўрачыстых цырымоніях нёс аголены меч вялікага князя
*калі стаў маршалкам Літоўскага Трыбунала* – Караль Радзівіл стаў маршалкам Літоўскага Трыбунала каля 1755 г.
*гайдамакі* – вандроўныя казакі на Украіне
*пан Валадковіч* – Ігнацы Валадковіч з менскага шляхецкага роду Валадковічаў, быў вядомы сваімі зухаватымі ўчынкамі
*у канфедэрацыі* – мова пра Барскую канфедэрацыю, падтрыманую Каралем Радзівілам у 1768 г.
*ашчэп* – кароткае кап’ё
*кардэляс* – вялікі паляўнічы нож
*стражнік* – павятовыя стражнікі падчас паспалітага рушэння шляхты кіравалі пярэдняй стражай
*калі настала бескаралеўе* – кароль Аўгуст III Сас памёр 5 кастрычніка 1763 г.
*каралевіч* – абраны, але яшчэ не каранаваны кароль; тут мова пра Станіслава Панятоўскага
*каптуровыя суды* – суды пад кіраваннем прымаса (галавы каталіцкае царквы Рэчы Паспалітае – архібіскупа Гнезненскага), якія дзейнічалі ў часе бескаралеўя
*завіта* – “завіты” судовы рок азначаў канчаткова вызначаны тэрмін, калі пазваная асоба абавязкова мусіла стаць на судзе пад пагрозай страты справы
*возны* – ураднік, які развозіў пазовы і іншыя ўрадавыя лісты
*jus gladii* (у лаціне) – права меча (т.б. права караць горлам)
*стольнік Літоўскі* – пасада Станіслава Панятоўскага да займання каралеўскага стальца; стольнік вялікі Літоўскі загадваў падаваннем страў на стол вялікага князя Літоўскага
*князь Масальскі* – Язэп Масальскі, падскарбі дворны Літоўскі (1754–1765), генерал-маёр, родны брат біскупа Віленскага Ігнацыя Масальскага
*рагатка* – кардон, шлагбаум

### Як кароль да Радзівіла ў гасціну прыязджаў

Злучэнне двух апавяданняў: з успамінаў “пані падкаморынай”, запісаных Яўстахам Тышкевічам (E. Tyszkiewicz. Nasze strony. Obrazek litewski. Kraków, 1871. s. 15), і з Федароўскага (т. III, №13: запісана ў вёсцы Кусіньцы ля Шыдловічаў (Ваўкавышчына), апавёў Тадэвуш Мацвяйчук).

*Станіслаў Панятоўскі* – кароль Польскі і вялікі князь Літоўскі ў 1764–1795 гг.
*князь Караль* – Караль Станіслаў Радзівіл “Пане Каханку” (1734–1790)
*віват* – тост
*гапка* – гафтка
*рэмень* – моцная тканіна

## *Прыпавесці і апавяданні рыцарскія*

### Пра Давойну і святы крыж

З Хронікі Быхаўца (с. 143-144). Гэты паход на Польшчу адбыўся ў 1384 або 1385 г. Хроніка кажа, што гэтая вайна падштурхнула польскіх паноў да абрання Ягайлы польскім каралём.

*Ляхі* – Польшча
*Святы Крыж* – бенедыктынскі кляштар на Лысай гары ля Апатава, адзін з найстаражытнейшых у Польшчы; рэліквія дрэва Крыжа была падарана кляштару вугорскім каралевічам Эмерыкам у 11-ым стагоддзі
*табола* – кайстра, торба
*малжонак* – сужэнец, муж

### Пра Андрэя Няміру, як Вітаўту раіў

Злучэнне аповедаў Хронікі Быхаўца (с. 149-150) і Хронікі Літоўскай (с. 77-78). Гэтае замірэнне з Масквою было ўкладзена ў 1406 г.

*Васілій Дзмітрыевіч Маскоўскі* – вялікі князь Маскоўскі (1389–1425), быў жанаты з Сафіяй, дачкой вялікага князя Вітаўта
*сеўрукі* – слугі
*кадзь* – кадка, бочка
*пан Андрэй* – Андрэй Неміровіч вядомы ад 1431 г.; тут мова, відаць, пра яго бацьку Яна Няміру, канюшага вялікага князя Вітаўта

### Пра бітву пад Дуброўнам

Злучэнне аповедаў Хронікі Літоўскай (с. 78-79) і Хронікі Быхаўца (с. 150-151).

*у тым* – тады
*фрыз* – парода грубых важкіх коней з Фрысланды (паўночнай Галандыі)
*салва* – вітальны знак
*катлы* – літаўры
*сурмы* – вялікія трубы
*прудкасць* – хуткасць, жвавасць
*гуф каморны* – прыдворны полк
*кунтары* – комтуры, найвышшыя ўраднікі Тэўтонскага ордэна

### Пра паноў Алёхну і Вола, як каралю Казіміру жыццё ўратавалі

Злучэнне аповедаў Хронікі Быхаўца (с. 161-162) і Хронікі Літоўскай (с. 88). Бітва пад Хойніцамі адбылася 18 верасня 1454 года. Алёхна Судымонтавіч, у той час падчашы вялікі Літоўскі, ад 1477 г. займаў пасаду ваяводы Віленскага, ад 1478 г. – канцлера вялікага Літоўскага.

*Хвойніцы (Хойніцы)* – горад у польскім Памор'і, у 1454 г. на мяжы тэўтонскіх уладанняў і польскіх
*конь падводны* – конь, на якім вазілі прыправу, рыштунак
*з вялікім пудам* – з вялікім імпэтам
*пан Рутвянскі* – Дзерслаў Рытвянскі ў 1454 г. быў старастам Судамірскім і кашталянам Расперскім; кашталянам Кракаўскім ён стаў толькі ў 1477 г.
*стырка* – сподняя кашуля

### Пра князя Канстантына Астроскага, вялікага гетмана Літоўскага

З Хронікі Літоўскай (с. 104-106, 108). Бітва пад Оршай адбылася 8 верасня 1514 года.

*гакаўніца* – цяжкая доўгая стрэльба з круком ("гакам") для мацавання на сцяне
*парадна* – спраўна, у парадку
*прапар* – сцяг, харугва
*заволаны* – заклікаsuccessfully

### Як Радзівіл і Кміта маскву разгрamілі

З Хронікі Літоўскай (с. 110-111). Гетман Радзівіл разбіў маскву ў бітве на рацэ Уле ля Чашнікаў 26 студзеня 1564 года, ваявода Кміта – у бітве пад Оршай 2 лютага таго ж года.

*з Полацка* – Полацк падчас Ліфлянцкай вайны быў захоплены маскоўскімі войскамі ў лютым 1563 г., вернуты ў склад Літвы ў 1579 г.
*за прыводам* – пад кіраваннем
*лупы* – здабыча, трафеі
*фортэль* – хітрык, выбрык
*бехцер* – панцыр з металічных пласцін

### За што Магілёву герб надаы

З хронікі Сурты-Трубніцкага (ПСРЛ, т. 32. с. 243).

*Sigillum civitatis Mohiloviensis* (у лаціне) – пячатка горада Магілёва
*вышрубаваў скалку ад флінты* – выкруціў крэмень з стрэльбы; "флінта" – пістонная стрэльба, у якой порах запальваўся ад удару крэменю ("скалкі")
*турмульт* – замяшанне, розрух

### Як ад гетмана Паца маскаль пад мост схаваўся

З хронікі Сурты-Трубніцкага (ПСРЛ, т. 32. с. 243-244).

*рэгіментар* – кіраўнік "рэгімента" (палка)
*на Вобалі* – бітва на Вобалі ля Віцебска 6 чэрвеня 1664 года
*патрэба* – бойка, бітва
*патужны* – моцны
*пад'ячы* – пісар у канцылярыі, памочнік д'яка (начальніка канцылярыі)

## Бартко Ходзька

Скарочаны пераказ паводле “Успамінаў Сапліцы” (с. 116-124).

*палестра* – адвакатура ў старой Польшчы
*кунтуш* – доўгі плашч
*кароняжы* – жыхары “Кароны”, Польшчы
*падсудак* – памочнік суддзі
*умацаваны* – давераная асоба
*шпіхлер* – свіран
*карабэля* – папулярны сярод польскай і літоўскай шляхты тып шаблі з адмысловай ручкай, зручнай для фехтавання
*у Любліне зрабілася унія Кароны з Літвой* – у Любліне ў 1569 г. была ўкладзена Люблінская унія Польшчы і Літвы; згадка пра Ягайлу і яго цесця вугорскага караля Людвіка тычыцца Крэўскай уніі 1385 г.
*кароль Людвік* – Людвік I, кароль Вугорскі (1342–1382), Польскі (1370–1382), бацька каралеўны Ядзвігі, цесць Ягайлы
*венгрын* – кілішак вугорскага віна

## Споведзь рыцара

З зборніка 17-га стагоддзя “*Наука на покусы*” (Кушалеў-Безбародка, вып. 1, с. 93-94).

*паклякнуўшы* – укленчыўшы
*выжэнем* – выганім
*адвесціся* – апраўдацца
*непадбаве* – бавячыся, адвалакаючы
*лотры* – разбойнікі
*світ* – світанак

## Рыцар, які шукаў “баюся”

З Федароўскага (т. II, №188). Запісана ў вёсцы Дварчаны ля Свіслачы (Ваўкавышчына).

*гіцаль* – памочнік ката; таксама абраза (мянушка на подлага чалавека)

## Рыцар і Смерць

З зборніка 17-га стагоддзя (Кушалеў-Безбародка, вып. 2, с. 441-443).

*вялікім фукам* – з вялікай пыхай
*цесла* – цяслярская сякера
*корд* – кароткі меч
*чод* – почат
*заісце* – сапраўды
*красная* – прыгожая
*цар Аляксандр* – Аляксандр, цар Македонскі (336 г. да н.э. – 323 г. да н.э.), славуты заваёўнік антычнасці
*нэндзны* – убогі, мізэрны
*заляцаць* – даручаць, пакідаць
*добры* – багацці, маёмасць

# *Апавяданні і байкі мяшчанскія*

## Як літвін казнадзею запярэчыў

З Хронікі Літоўскай (с. 76-77).
Мова, відаць, пра сойм 1401 года, калі была ўкладзена Віленска-Радамская унія Літвы з Польшчаю. З боку Літвы акт гэтае уніі прысведчылі князь Іван Гальшанскі з сынамі Андрэем і Сямёнам, намеснік Клецкі князь Сямён Ямунтавіч, стараста Ашмянскі Мінгайла, стараста Віленскі Альберт Манівід, маршалак дворны Юрый Гедыгоўд, маршалак дворны Станіслаў Чапурна, стараста Крэўскі Андрэй Гастоўт, баяры Няміра, Братоша з сынам Зіновіем, Войнад Русіловіч, Воўчка Вялютовіч, Раман Мілейкавіч з братам Воўчкам і іншыя літвіны.

## Гісторыя аб Жыровіцкім цудоўным абразе Дзевы Марыі

Аповесць Феадосія Баравіка 1625 г. (І. Крамко, А. Мальдзіс. Невядомы помнік старабеларускай пісьменнасці // Беларуская лінгвістыка. вып. 23, 1983. с. 52-53).

*жыр* – пажыва, яда
*спасобны* – зручны, даступны
*тэж* – таксама
*Аляксандр Солтан* – падскарбі дворны Літоўскі (1474–1482), маршалак гаспадарскі (1482–1493), намеснік Слонімскі і Наваградскі (1486–1487); у 1467–1469 гг. вандраваў па дварах заходнееўрапейскіх манархаў, дзе быў пасвячоны ў рыцары ордэна Гроба Божага
*рыхла* – хутка
*дзянніца* – ранішняя зорка
*здумеваўся* – дзівіўся, быў агаломшаны
*спанялая* – пышная, велічная
*уставічнае* – сталае, штодзённае
*пажагнаўся* – развітаўся

## Тут Бог жыве

З дзённіка падсудка наваградскага земскага суда Фёдара Еўлашэўскага (1546–1616) (Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры / укл. А.Ф. Коршунаў. Мінск, 1959. с. 224).

*пабор "паглоўны"* – падатак з кожнай асобы
*міністры* – старшыні евангеліцкага збору
*праціўным жа абычаем* – Еўлашэўскі падчырківае, што хаця ён сябраваў з евангелікамі, яго добра прымалі і каталіцкія клерыкі
*набавіў* – надаў
*папеж Клеменс* – Клімент VIII, папеж Рымскі (1592–1605), ад 1585 года папскі легат у Рэчы Паспалітай
*кароль Стэфан* – Стэфан Баторый, кароль Польскі, вялікі князь Літоўскі (1575–1586)
*пераднейшыя* – старэйшыя
*улохі* – італьянцы
*няснаскі* – нягоды, звады

## Якога мяне стварыў, такога мяне маеш

З Федароўскага (т. III, №314). Запісана ў фальварку Косін ля Гнезны. Апавяла Паўліна Кярсноўска.

*ступы* – прыступкі

### Як шкадліва рэч ёсць маладым даванне грошай і злая вольнасць

З зборніка №107 (лісты 193 – 193 адваротны).

*сплодныя* – здольныя
*пагамуй* – сціш, утаймуй
*фрасунак* – журба, смутак
*міністрыня* – гаспадыня
*бяседы* – учты, застоллі
*младзенцы* – маладзікі, юнакі
*снадна* – лёгка, увішна
*бярэмя набавіў* – зрабіў цяжарнай

### Як адна ўдава сваімі фортэлямі трох младзенцаў абшукала

З зборніка 17-га стагоддзя (Кушалеў-Безбародка, вып. 2, с. 481-482).

*доўга рутку сеяла* – доўга не магла выйсці замуж; з руты дзяўчыны рабілі вянкі на вяселле
*шпэтная* – непрыгожая
*легаваў* – афіцыйна запісаў у тэстаменце
*мары* – насілкі для памерлых
*малжэнства* – шлюб
*дапраўляці сябе* – ісціць сваю патрэбу
*дахода* – справа, патрэба
*туртус* – замяшанне
*фэбра* – ліхаманка, трасца
*грухнула* – атрымала вялікі розгалас

### Пра бабу, якая ехала да неба

З зборніка Яна Карловіча (Podania i bajki ludowe zebrane na Litwie / staraniem Jana Karłowicza. Kraków, 1887. s. 46-47). Запісана ў Троцкім і Свянцянскім паветах.

*палапалі* – схапілі

### Удзячная гаспода

З зборніка №107 (лісты 156 – 156 адваротны).

*трудаваты* – хворы на струплю
*гаспода* – жытло
*фрасаваўся* – журыўся

### Багацей і суддзя

З казаней Антонія Радзівілаўскага (1620–1688) (М. Марковский. А. Радивиловский, южнорусский проповедник 17 в. Киев, 1891. с. 85).

*лакамы* – ласы
*што прудшэй* – як мага хутчэй
*подлай кандыцыі* – нізкага стану
*дукат* – залатая манета
*бынамней* – ніякім чынам

### Як некаторы страшлівым спосабам ад п’янства быў адведзен

З зборніка №107 (лісты 157 адваротны – 159).

*ялмужны* – міласціна
*відзенне* – відма
*закалатаў* – загрукаў
*пастава* – постаць
*асёж* – і вось

### Споведзь пана

З Федароўскага (т. I, №7). Запісана ў вёсцы Вільчукі ля Мсцібава (Ваўкавышчына). Апавёў Ёзэф Шыцко.

### Што князю Радзівілу Езус сказаў

Скарочаны пераказ паводле “Успамінаў Сапліцы”, с. 87-107.

*Віленскі князь-ваявода* – князь Караль Станіслаў Радзівіл “Пане Каханку”, ваявода Віленскі (1762–1764, 1768–1790), у 1768 г. дзеля закалота з партыяй біскупа Віленскага Ігнацыя Масальскага быў вымушаны выехаць за мяжу, у 1777 г. вярнуўся ў Літву
*сіндык* – свецкая асоба, абраная для кіравання фінансавымі справамі кляштара
*засцянкі* – дробныя, “засцянковыя” шляхцічы
*амарантавыя* – барвовыя, колеру амаранту
*гайдавэры* – шаравары, шырокія нагавіцы
*шкаплер* (ад лацінскага scapular) – накідка з сшытых кавалкаў тканіны, якую насілі на шыі паводле зароку
*з раз’ездам* – з конным почтам
*біскуп Віленскі* – Ігнацы Масальскі, біскуп Віленскі (1762–1794)
*Барэмль* – мястэчка ў Луцкім павеце на Валыні
*ostende patrem patris* (у лаціне) – ведай бацьку (свайго) бацькі
*кеп* – той, з каго кпяць

## *Апавяданні і байкі сялянскія*

### Мужык і Радзівіл

З Федароўскага (т. III, №14). Запісана ў вёсцы Дварчаны ля Свіслачы (Ваўкавышчына). Апавяла Крыся Данільчыкава. Байку з падобным сюжэтам запісаў ля Барысава Шэйн (т. II, №163).

*назбыткаваць* – паздзеквацца, пасмяяцца

### Як Радзівіл мужыка розуму навучыў

З Федароўскага (т. III, №15). Запісана ў вёсцы Кітурыкі ля Ялоўкі (Беласточчына). Апавёў Васількоўскі.

*як бач* – адразу, імгнення

### Селянін на судзе

З Федароўскага (т. III, №276). Запісана ў вёсцы Жухава ля Сухаволі (Гарадзеншчына). Апавёў Ян Дзежка.

### Разумная дзяўчына

З зборніка Шэйна (т. II, №161). Запісана ля Дукштаў на Браслаўшчыне.

### Ксёндз і закрыст’ян

З Федароўскага (т. III, №324). Запісана ў вёсцы Азяранкі Малыя ля Шыдловічаў (Ваўкавышчына). Апавёў Банадык Чэбёлка. Байку з такім жа сюжэтам запісаў на Гарадзеншчыне Шэйн (т. II, №160).

*закрыст’ян* – касцёльны вартаўнік і памочнік святара

### Як Бог адбярэ, то і людзі добрыя не спамогуць

З Федароўскага (т. II, №316). Запісана ў вёсцы Студэроўшчызна ля Моўчадзі (Слонімшчына). Апавёў Тамаш Ткачук.

*вольха* – скрынка

### Як вялікі грэшнік збавёны застаўся

З Федароўскага (т. II, №342). Запісана ў вёсцы Ганевічы ля Поразава (Ваўкавышчына). Апавяла Юлька Гусакоўна. Падобныя байкі пра збавёнага грэшніка запісаны таксама на Меншчыне і Гомельшчыне (Шэйн, №217; Раманаў, дадаткі, №15).

### Чаму мужык старшы над жонкаю

З Федароўскага (т. I, №20). Запісана ў вёсцы Вішневічы ля Шыдловічаў (Ваўкавышчына). Апавёў Ёзэф Смаляр.

*барздзей* – хутчэй

### Чаму людзі з таго свету не прыходзяць

З Федароўскага (т. I, №8). Запісана ў вёсцы Дрыга ля Сухаволі (Гарадзеншчына). Апавёў Ян Дзежка.

### Чаму зязюля кувае адно да Пятрова дня

Запісана на Вілейшчыне (F. Sielicki. Folklor białoruski. Wrocław, 1983. s. 90).

### Чаму мазуры шапяляюць

З Федароўскага (т. I, №1104). Падслухана ў карчме ў Ізабеліне (Ваўкавышчына).

### Чаму субакі не любяць кошак

Анталогія беларускай байкі. Мінск, 2001. с. 9-10.

### Як мужык чорта абшукаў

З Федароўскага (т. I, №98). Запісана ў вёсцы Новікі ля Росі (Ваўкавышчына). Апавяла Зося Седачыха.

### Як чэрці схапілі хлопца

З Федароўскага (т. II, №245). Запісана ў вёсцы Манчэлі ля Гнезны (Ваўкавышчына). Апавяла Яновічыха.

*выбыўшы рок* – адслужыўшы тэрмін
*трэнсавіца* – дрыгва, багна

### Як ксёндз за ноту прадаў чорту душу

З Федароўскага (т. I, №91). Запісана ля Сухаволі (Гарадзеншчына). Апавёў Ян Дзежка. Байка з падобным сюжэтам запісана на Магілёўшчыне (Раманаў, №45).

*нота* – моцны, музычны голас
*цароград* – скажонае “цырограф” ад грэцкага χειρογραφον “рукапісанне”

### Аб дзеўцы, што яе ліхі зачапаў

З Федароўскага (т. II, №207). Запісана ў вёсцы Дрыга ля Сухаволі (Гарадзеншчына). Апавяла Зоф’я Дзежкава.

*ксёнжка* – кніжка

### Як вісельнік хлопца збавіў

З Федароўскага (т. II, №189). Запісана ў вёсцы Кавалёўцы ля Лыскава (Ваўкавышчына). Апавяла Гаўдося Жылінска.

### Баба Халера

З Федароўскага (т. I, №374). Запісана ў вёсцы Дрыга ля Сухаволі (Гарадзеншчына). Апавёў Ян Дзежка.

*чом’* – чаму

### Аб чалавеку, што зайшоў да Рыму на каленках

З Федароўскага (т. I, №12). Запісана ў вёсцы Саленікі ля Слоніма.

## Паказальнік гарадоў і мястэчак, згаданых у кнізе